IUBILAEUM CHRISTUS HERI HODIE SEMPER A.D. 2000

“Каб усе былі адно” (Ян 17, 21)

# Царква

№ 3 (26), 2000

КРЫЖАЎЗВЫШЭНЬНЕ



*18-25 чэрвеня 2000 году ў Рыме прайшоў 47-ы Сусьветны Эўхарыстычны Кангрэс, у якім бралі ўдзел і прадстаўнікі Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы — Апостальскі візітатар для грэка-католікаў Беларусі архімандрыт а. Сяргей Гаек і Дэкан БГКЦ а. Віктар Данілаў, парах Гарадзенскай парафіі Зьяўленьня Маці Божай у Фаціме. Падчас Кангрэсу (22 чэрвеня) яны мелі аўдыенцыю ў Сьвятога Айца Яна Паўла II, а таксама ўдзельнічалі ў сьв. Літургіі разам з Рымскім Архірэем, якая адпраўлялася ў ягонай прыватнай капліцы.*

*У гэтым нумары прапануем вашай увазе матэрыял а. Віктара Данілава, які дзеліцца сваімі развагамі і ўражаньнямі пасьля Кангрэсу* *(гл. с.3).* ⇨

## Экуменічная сустрэча беларускіх грэка-католікаў з нямецкімі лютаранамі і рыма-католікамі

*З 1 па 4 жніўня Берасьцейская грэка-каталіцкая парафія сьвятых братоў апосталаў Пятра і Андрэя прымала рознаканфесійную групу — 12 пілігрымаў з Нямеччыны, а таксама з Польшчы, якія прыехалі ў Беларусь, каб памаліцца на магілах ахвяраў II Сусьветнай вайны і глыбей пазнаць жыцьцё Каталіцкай Царквы візантыйскага абраду.*

Група нямецкіх пілігрымаў складалася з католікаў і лютаранаў, якія імкнуцца да хрысьціянскай еднасьці. У сябе на радзіме яны прадстаўляюць зьмешаную каталіцка-лютаранскую супольнасьць, якая мае свой цэнтр у невялікім гарадку Бэбра. Там гэтая супольнасьць мае невялікую ферму, якая забясьпечвае матэрыяльнае існаваньне манаскай грамады і ўсёй супольнасьці. На працягу апошніх 20 гадоў прадстаўнікі гэтай лютаранска-каталіцкай супольнасьці займаліся выяўленьнем і ўшанаваньнем крыжамі месцаў, дзе пахаваныя ахвяры фашысцкага рэжыму.

Перад прыездам у Берасьце нямецкія вернікі разам з манашкамі з Кангрэгацыі Малых Сёстраў Ісуса, якія працуюць ва ўніяцкай парафіі ў Кастамлотах, зьдзейсьнілі пілігрымку на тэрыторыі Польшчы па прыбужскіх мясьцінах былой Холмскай уніяцкай епархіі, дзе маліліся на месцах ахвяраў вайны, у рыма-каталіцкіх і ўніяцкіх храмах. Менавіта дзякуючы пасярэдніцтву малых сёстраў Ісуса з Кастамлотаў і ўдалося наладзіць у Берасьці гэтае экуменічнае спатканьне.

*Працяг на с.15* ⇨

# Пастырскае Слова

## Візітатара «ad nutum Sanctae Sedis» для грэка-католікаў Беларусі

## НА ПАЧАТАК НОВАГА ЦАРКОЎНАГА ГОДУ, 1 ВЕРАСЬНЯ 2000 ГОДУ

*Вялебныя Айцы,*
*любыя ў Госпадзе Браты і Сёстры,*
*дарагія Сябры!*

**1** Калі з Божай дапамогаю сёньня, 1 верасьня, уваходзім у новы царкоўны год, мы маем за сабой шмат месяцаў Юбілейнага Году, у якім мы пазналі шчодрыя ласкі Божыя.

Большасьць нашых парафіяў ужо адзначыла сьвяты сваіх патронаў, мы мелі магчымасьць браць удзел у юбілейных пілігрымках, з якіх найважнейшай была традыцыйная пілігрымка з Віцебска ў Полацак у ліпені, прысьвечаная памяці Полацкіх мучанікаў.

Нашая Беларуская Грэка-Каталіцкая Царква далучылася таксама да сьвяткаваньня Юбілейнага Году ў рамках Паўсюднае Царквы.

Канкрэтным увасабленьнем гэтага быў удзел дэкана нашай Царквы Вялебнага айца протапрасьвітара Віктара Данілава ў Міжнародным Еўхарыстычным Кангрэсе ў Рыме (18-25 чэрвеня) і ягоная сустрэча са Сьвятым Айцом Янам Паўлам II, затым мой удзел у сімпозіюме ерархаў Усходніх Каталіцкіх Цэркваў краінаў Усходняе Еўропы ў Ерусаліме 1-11 ліпеня, а таксама ўдзел прадстаўнікоў моладзі БГКЦ у Сусьветным Дні Моладзі ў Рыме 15-20 жніўня 2000 году.

Гэтыя міжнародныя падзеі прынесьлі шчодрае духоўнае багацьце, якое яшчэ вымагае асэнсаваньня. Асабліва XV Сусьветны Дзень Моладзі ў Рыме дазволіў нашай моладзі зьведаць радасьць і гонар з таго факту, што яны хрысьціяне, гонару з таго, што яны — католікі. Як адзначыла міжнародная прэса, «гэта былі дні, пазначаныя адкрыцьцём сяброўскай і вернай прысутнасьці Хрыста, народжанага 2000 гадоў таму». Гэты Хрыстос разьлівае на новае пакаленьне, спадзяецца на маладое пакаленьне беларусаў, якія панясуць Добрую Вестку ў Трэцяе Тысячагоддзе.

**2** Ва ўзвышаны кантэкст міжнароднага сьвяткаваньня Юбілею ўпісваецца таксама мая пілігрымка ў Іркуцк ва Ўсходняй Сібіры. Удзел у асьвячэньні рыма-каталіцкага катэдральнага сабору ў Іркуцку 8 верасьня, а затым асьвячэньне капліцы прымірэньня, супакою і ўваскрасеньня (10 верасьня) ёсьць сімвалічнай пілігрымкай да месца ссылкі і мучаніцтва шматлікіх беларусаў, ды асабліва пакутніцкай сьмерці ва ўсходнесібірскім лагеры Тайшэт беларускіх патрыётаў і душпастыраў — айца Адама Станкевіча († 4.12.1949) і архімандрыта Андрэя Цікоты († 11.02.1952). Сьведчаньне іхняй пакутніцкай сьмерці застаецца для нас крыніцай моцы на шляху намаганьняў для справы духоўнага адраджэньня.

**3** На пачатку новага царкоўнага году мы маем некалькі важных гадавінаў.

На 2 верасьня прыпадае 2-ая гадавіна сьмерці айца Яна Матусевіча, першага протапрасьвітара нашае Царквы ў Беларусі, які мае вялікія заслугі ў справе адраджэньня БГКЦ. Ва ўзмоцненай малітве даручаем ягоную душу Міласэрнаму Богу.

На 2 кастрычніка прыпадаюць 25-ыя ўгодкі сьмерці айца Тамаша Падзявы, выдатнага беларускага душпастыра і рэлігійнага пісьменьніка. Ён працаваў ва Ўсходняй Каталіцкай Місіі ў Харбіне ў 1935-1948 гадах, арыштаваны кітайскімі камуністамі і перададзены савецкім уладам. Быў вязьнем лагероў у Сібіры і Цэнтральнай Азіі да 1955 году. Пасьля вызваленьня з лагероў працаваў як душпастыр у Польшчы, а затым у Вялікай Брытаніі ў Беларускай Каталіцкай Місіі як нястомны публіцыст часапіса «Божым шляхам». Ягоная каштоўная філасофска-тэалагічная спадчына доўга яшчэ будзе патрабаваць глыбейшага пазнаньня і засваеньня ў Беларусі.

Варта будзе ўспомніць яшчэ 4 кастрычніка 19-ую гадавіну сьмерці біскупа Часлава Сіповіча, першага беларускага грэка-каталіцкага біскупа з часу так званага «полацкага сабору». (Сёлета, 4 жніўня, споўнілася 40 гадоў біскупскай хіратоніі Ўладыкі Часлава).

Выразна бачым, якую багатую духоўную традыцыю, пазначаную цярпеньнем, мучаніцтвам і гераізмам, мае нашая Царква. Мы пачуваемся маральна абавязанымі перадаць гэтую жывую традыцыю ў новае Тысячагоддзе Хрысьціянства ў Беларусі.

**4** Як вядома, праз 2 месяцы, 12 лістапада адбудуцца цэнтральныя ўрачыстасьці нашай Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы ў рамках Юбілейнага Году. Мы будзем сьвяткаваць Юбілей разам з нашымі братамі рыма-католікамі ў лацінскай катэдры ў горадзе Віцебску. Разам з біскупам Віцебскай дыяцэзіі Ўладыкам Уладзіславам Блінам, сардэчна запрашаем вас усіх на гэтыя Юбілейныя ўрачыстасьці.

Падчас урачыстасьцяў у Віцебску мы, беларускія грэка-католікі, хочам таксама горача падзякаваць Богу за 10 гадоў, што мінулі пасьля распачатай зноў рэгістрацыі нашых парафіяў і зьяўленьня магчымасьці для публічнага дзеяньня гістарычнай і традыцыйнай Царквы Беларусі — Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы. Таму гэтыя ўрачыстасьці набываюць для нас асаблівае значэньне.

У горадзе, які адзначаны мучаніцтвам нашага агульнага Патрона — сьв. Язафата,— прагнем яшчэ раз услухацца ў прысьвячэньне Юбілейнага Году і прыняць заклік да навяртаньня, духоўнай адновы і руплівага абвяшчэньня Евангельля прымірэньня і супакою.

З асаблівай увагай мы прымаем словы, якія Першаерарх Паўсюднае Царквы — Сьвяты Айцец Ян Павел II — накіраваў да юбілейных пілігрымаў у Рым некалькі дзён таму (30.08.2000 году): «Навярніцеся — па-грэцку «metanoite», значыць зрабіце радыкальную перамену вашых намераў ды сэрцаў. Трэба пакінуць за сьпіною зло і ўвайсьці ў валадарства справядлівасьці, любові і праўды, якое распачынаецца».

Прымем жа гэтыя словы за нашую праграму беспасярэдняе падрыхтоўкі да Цэнтральных урачыстасьцяў Юбілею ў Віцебску. На працягу наступных 9 тыдняў, з 10 верасьня да 5 лістапада гэтага году, паасобныя парафіі будуць далучацца да агульнацаркоўнае навэнны, гэта значыць будуць перажываць дзень духоўнай падрыхтоўкі да ўрачыстасьці ў Віцебску. Гэта несумненна дазволіць многім нашым пілігрымам больш плённа ўдзельнічаць у сьвяце сьв. Язафата ў Віцебску ў дзень 12 лістапада.

Ад шчырага сэрца ўсіх вас благаслаўляю і чакаю ў Віцебску.

*Рым-Менск-Віцебск,*
*1 верасьня 2000 году*

+ архім. Сергей Гаек

*Архімандрыт* **Сяргей (ГАЕК)**, *візітатар*

# Прадстаўнікі БГКЦ на 47-м Сусьветным Еўхарыстычным Кангрэсе

17 чэрвеня 2000 году мы, прадстаўнікі БГКЦ, прыляцелі ў Рым, у «вечны горад» — Апостальскую Сталіцу Каталіцкай Царквы. 18 чэрвеня тут пачынаў сваю працу 47-ы Еўхарыстычны Кангрэс. Першы такі Кангрэс адбыўся яшчэ ў 1891 годзе ў г.Ліль (Францыя), а апошні быў арганізаваны ў 1997 годзе ў г.Вроцлаў (Польшча).

Асаблівасьць 47-га Еўхарыстычнага Кангрэсу ў тым, што ён прыпадае на Юбілейны 2000 год існаваньня хрысьціянства. Тэма сёлетняга Кангрэсу была такой: «Ісус Хрыстос — адзіны Збаўца сьвету».

Мы ведаем, што ў справе збаўленьня чалавецтва немагчыма пераацаніць значэньне Боскай Еўхарыстыі (Прычасьця), пра якую Хрыстос сказаў: «Я — хлеб жыцьця. Хто прыходзіць да мяне, ня будзе чуць голаду, і хто верыць у мяне, ніколі смагнуць ня будзе» *(Ян 6, 35)*. І далей Хрыстос тлумачыць: «Бо цела Маё сапраўды ёсьць ежа, і кроў Мая сапраўды ёсьць пітво. Хто есьць цела Маё ды п'е кроў Маю, ува Мне прабывае, а Я — ў ім» *(Ян 6, 55-56)*. Гэта значыць, Боская Еўхарыстыя — гэта такая ежа для душы, праз якую Бог-Слова ўсяляецца ў нас, жыве ў нас і падтрымлівае нас.

Але Боская Еўхарыстыя ня толькі яднае нас з Богам, зьяўляецца нашай духоўнай ежай, яна мае яшчэ і місіянерскае значэньне. Як кажа пра гэта апостал Павел, «колькі разоў будзеце есьці гэты хлеб і піць гэты келіх, будзеце абвяшчаць сьмерць Госпада, пакуль ня прыйдзе» *(1 Кар 11, 26)*. Боская Еўхарыстыя будуе Цела Царквы, далучае да яе ўсё новых людзей.

Еўхарыстычны Кангрэс праходзіў з 18 па 25 чэрвеня і суправаджаўся чытаньнем Сьвятога Пісьма, казаньнямі найлепшых прапаведнікаў Царквы, ушанаваньнем Боскай Еўхарыстыі і яе перажываньнем падчас прычасьця Ёю. Вось такі быў унутраны сэнс Міжнароднага Еўхарыстычнага Кангрэсу.

На Кангрэс сабраліся дэлегаты з многіх краінаў сьвету. У кожным набажэнстве бралі ўдзел тысячы сьвецкіх вернікаў, сотні сьвятароў і дзясяткі біскупаў, прадстаўнікі мноства рэлігійных брацтваў.

Разам з усімі мы бралі ўдзел ва ўрачыстым адкрыцьці 47-га Міжнароднага Еўхарыстычнага Кангрэсу на плошчы сьв. Пятра, якая была цалкам запоўнена народам. Адкрыцьцё Кангрэсу суправаджалася ўрачыстым выступам Папы Яна Паўла II. Кожны дзень падчас працы Кангрэсу мы ўдзельнічалі ў нейкім набажэнстве.



*Ватыкан, 22.06.2000. Дэкан БГКЦ протапрасьвітар Віктар Данілаў і Апостальскі візітатар для грэка-католікаў Беларусі архімандрыт Сяргей Гаек на сьв. Літургіі ў прыватнай капліцы Рымскага Архірэя Яна Паўла II.*



*Ватыкан, 22.06.2000. Дэкан БГКЦ а. Віктар Данілаў і Апостальскі візітатар для грэка-католікаў Беларусі а. Сяргей Гаек у часе аўдыенцыі ў Рымскага Архірэя Яна Паўла II.*

Асабліва моцнае ўражаньне пакінула набажэнства ў базіліцы сьв. Паўла. Гэта адна з найпрыгажэйшых цэркваў сярод усіх рымскіх храмаў, якая пабудавана на месцы пахаваньня апостала Паўла паводле загаду імператара Канстанціна. Пазьней храм зрабілі больш умяшчальным, а ў 5 стагоддзі ён быў рэстаўраваны і ўпрыгожаны. У 1823 годзе падчас пажару храм быў разбураны, а затым адноўлены па захаваных чарцяжах. Інтэр'ер храму складаецца з 5 нефаў, якія адасоблены адзін ад аднаго вялікімі калонамі. Высока па сьценах храму — партрэты ўсіх папаў Каталіцкай Царквы.

Набажэнства ў базіліцы сьв. Паўла пачалося 21 чэрвеня а 18-й гадзіне. Яго ўзначаліў кардынал Джозеф Томка — Прэфект Кангрэгацыі па евангелізацыі народаў. На ўрачыстай літургіі былі прадстаўлены, акрамя лацінскага абраду, і некаторыя ўсходнія абрады Каталіцкай Царквы, у тым ліку малабарскі абрад, носьбіты якога жывуць у Індыі. Было таксама шмат прадстаўнікоў з краінаў Афрыкі і Азіі. Вельмі нязвыклым, нават экзатычным, быў выступ царкоўнага хору з прадстаўнікоў афрыканскіх і азіяцкіх краінаў. Нязвыклым быў ня толькі зьнешні выгляд удзельнікаў гэтага хору, іх адзеньне, але і іхняя музыка, якая спалучала рэлігійную мелодыю з рытмам, што ствараўся падчас сьпеву плясканьнем у далоні. У гэтым набажэнстве бралі ўдзел каля 8 тысячаў чалавек, у тым ліку каля 60 біскупаў і каля 350 сьвятароў.

На працягу Кангрэсу мне давялося таксама тройчы выступіць у перадачах Радыё Ватыкану, прычым адбылося гэта ў розных рэдакцыях на трох мовах: на беларускай, польскай і расейскай.

Галоўнай падзеяй падчас Кангрэсу для нас сталася асабістая сустрэча з Папам Янам Паўлам II у першай палове дня 22 чэрвеня ў ягонай прыватнай капліцы. Мы ня толькі разам бралі ўдзел у сьв. Літургіі, але і прычасьціліся пад выглядам віна з аднае чашы з Папам. Пасьля літургіі адбылася нашая сустрэча са Сьвятым Айцом, падчас якой мы перадалі сардэчнае прывітаньне ад беларускіх грэка-католікаў і нашую ўдзячнасьць яму за ягонае служэньне Каталіцкай Царкве і ўсяму чалавецтву. У знак удзячнасьці мы перадалі яму невялікі падарунак — ікону Збаўцы і беларускі кампакт-дыск «Псальмы» (вершы Рыгора Барадуліна, напісаныя на псальмы, у выкананьні барда Алеся Камоцкага). У адказ мы атрымалі на памяць альбом марак пошты Ватыкану і на разьвітаньне сфатаграфаваліся разам з Папам Янам Паўлам II.

Аднак самае запамінальнае ад гэтага Еўхарыстычнага Кангрэсу — каталіцкі ўніверсалізм, салідарнасьць католікаў усіх краінаў сьвету. У адрозьненьне ад міжнацыянальнай варожасьці, якая мае месца на постсавецкай прасторы, там, у Рыме, прадстаўнікі гэтых самых народаў, але сьвядомыя, практыкуючыя католікі, праяўлялі адзін да аднаго шчырыя сардэчныя адносіны, такія, нібы яны члены адной сям'і. Але ж так і павінна быць паміж намі, пра што гаворыць і Сьвятое Пісьмо: «Няма ўжо Юдэя або язычніка, ... але ўсе вы сталіся адно ў Хрысьце Ісусе» *(Гал 3, 28)*, «ужо няма Грэка і Юдэя, ... варвара, Скіфа, ... але ўсё і ва ўсім Хрыстос *(Кал 3, 11)*.

*Дэкан БГКЦ*
*протапрасьвітар* **Віктар Данілаў**

## Наш летапіс

***

24-31 жніўня 2000 году ва ўніяцкай парафіі ў Кастамлотах (Польшча) адбыліся рэкалекцыі і тэалагічны курс для семінарыстаў і парафіяльных лідараў БГКЦ. На працягу першых трох дзён адбываліся выклады, якія праводзілі айцы-марыяне. Падчас іх быў зроблены асаблівы акцэнт на неабходнасьці слухаць Слова Божае. Для гэтага былі прапанаваны канкрэтныя методыкі працы са Сьвятым Пісьмом.

У нядзелю, 27 жніўня, падчас Боскай Літургіі ў царкве сьв. Мікіты адбыліся аблачыны (блаславеньне на нашэньне падрасьніка) семінарыстаў Аляксандра Трафіменкі і Андрэя Крата. А ў сьвята Адсячэньня галавы сьв. Яна Хрысьціцеля, 29 жніўня, адбылося пастаўленьне ў сьвечканосца і чытальніка-сьпевака семінарыста Андрэя Латыша.

А ў панядзелак 28 жніўня ўдзельнікі рэкалекцыяў зьдзейснілі пілігрымку да былой сапегаўскай рэзідэнцыі Кодэнь. Сьпевам Акафісту ўшанавалі пілігрымы Багародзіцу ў санктуарыюме Маці Божай перад яе цудатворнай Кодэньскай іконай. Таксама яны памаліліся аб сьвятарскіх пакліканьнях у былой уніяцкай царкве Сьвятога Духа.

Наступныя некалькі дзён у Кастамлотах былі прысьвечаны тэалагічным, культуралагічным і псіхалагічным выкладам. Асаблівая ўвага была зьвернута на псіхалогію асобы, праблемы інкультурацыі і дзейнасьць сектаў. ❑

***

2 верасьня споўнілася 2 гады з дня сьмерці Дэкана адноўленай у 1990 годзе Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы протапрасьвітара айца Яна Матусевіча. З гэтай нагоды 3 верасьня вернікі БГКЦ сабраліся на Кальварыйскіх могілках у Менску, дзе пахаваны айцец Ян, каб ушанаваць памяць гэтага адданага справе Уніі сьвятара і шчырага патрыёта Бацькаўшчыны. На могілках адбылася памінальная паніхіда, якую правёў парах менскай парафіі сьв. Язэпа, наступнік а. Яна Матусевіча на гэтай пасадзе, айцец Андрэй Абламейка.

У той самы дзень айцец Андрэй Абламейка адслужыў на Паўночных могілках у Менску яшчэ адну памінальную службу. 3 верасьня споўнілася 10 гадоў, як памёр вядомы беларускі дзеяч Міхал Дубянецкі. Ён быў адным з тых, хто актыўна падтрымліваў і ўсяляк садзейнічаў аднаўленьню Грэка-Каталіцкай Царквы ў Беларусі.

Вечная ім памяць! ❑

# Грэка-каталікі Польшчы сьвяткуюць Юбілейны Год

*У Перамышлі і Яраславе 20 жніўня закончыліся трохдзённыя ўрачыстасьці Вялікага Юбілею 2000 Году ў Грэка-Каталіцкай Царкве Польшчы. На іх прыехалі вернікі з усёй Польшчы і Украіны, якія бралі ўдзел у шматлікіх набажэнствах і чуваньнях. У іх была таксама ўнікальная магчымасьць паслухаць некалькі канцэртаў альбо агледзець выставы абразоў, вышываных на палатне.*

Галоўныя сьвяткаваньні Юбілею-2000 адбыліся ў Перамышльскай архікатэдры (мітрапалічым саборы) сьв. Яна Хрысьціцеля, а таксама ў Яраславе, дзе знаходзіцца марыйны санктуарыюм з цудатворнай іконай Маці Божай «Брама міласэрнасьці». Найважнейшым элементам юбілейных сьвяткаваньняў была архірэйская Боская Літургія, якую адпраўляў мітрапаліт Ян Мартыняк разам з больш чым 30 біскупамі абодвух абрадаў з Польшчы, Украіны і Францыі. Прысутнічаў таксама Прымас Польшчы кардынал Юзаф Глемп і Апостальскі нунцый у Польшчы архібіскуп Юзаф Кавальчык.

У прыгожай перамышльскай катэдры, якую Папа Ян Павел II перадаў грэка-католікам у 1991 годзе, вернікі сабраліся яшчэ за гадзіну перад пачаткам урачыстасьцяў і сьпявалі рэлігійныя песьні. Юбілейная літургія адпраўлялася па-ўкраінску, а сьпевы былі таксама і на царкоўнаславянскай мове.

Прывітальнае слова да вернікаў накіраваў Сьвятыя Айцец Ян Павел II. «Дзякую Богу за дар ахвяры крыві, якую браты і сёстры грэка-католікі прынесьлі за веру»,— напісаў Ян Павел II, маючы на ўвазе перасьледаваньні, якія ў мінулым моцна закранулі гэтую Царкву. Рымскі Архірэй блаславіў таксама вернікаў Грэка-Каталіцкай Царквы на Трэцяе Тысячагоддзе, што надыходзіць. Ліст Рымскага Архірэя прачытаў Апостальскі нунцый у Польшчы архібіскуп Ю.Кавальчык. «Мы перажываем цяпер час міру і свабоды,— гаварыў у сваю чаргу Прымас Польшчы Ю.Глемп.— Дзякуючы міру мы можам будаваць, дзякуючы свабодзе — рабіць дабро». Казаньне гаварыў уладыка Любамір Гузар, біскуп-памочнік Вярхоўнага архібіскупа Львова, Галіча і Камянца-Падольскага.

Грэка-Каталіцкая Царква Польшчы грунтоўна рыхтавалася да Юбілею — адзначыў грэка-каталіцкі архібіскуп Ян Мартыняк, мітрапаліт Перамышльска-Варшаўскі, які ўзначальваў урачыстае набажэнства. У 1999 і 2000 гг. ва ўсіх грэка-каталіцкіх парафіях былі наладжаны рэкалекцыі, якія рыхтавалі вернікаў да ўваходу ў Трэцяе тысячагоддзе. Евангелізацыя закранула школы і нават турмы. Уладыка таксама ўзгадаў, што з таго часу, калі ў 1989 годзе Грэка-Каталіцкая Царква здабыла ў Польшчы свае правы для легальнай дзейнасьці, вернікі адбудавалі або збудавалі 30 сьвятыняў. Юбілейным дарам стануць сьвятыні ў Альштыне і Маронгу, якія будуць асьвячаныя ўвосень.

Сёньня Грэка-Каталіцкай Царкве ў Польшчы нішто не пагражае — існуюць адпаведныя запісы ў канстытуцыі Польшчы і ў канкардаце, якія гарантуюць свабоду веравызнаньня і культу.

«Мы не баімся празелітызму. Лічым, што кожная супольнасьць і кожны абрад у Паўсюднай Царкве заслугоўвае на павагу і падтрымку»,— сказаў у інтэрв'ю *KAI* архібіскуп Ю.Кавальчык.

# Маладыя сербы ня могуць прызнацца, што былі ў Рыме

Маладыя людзі з Сербіі, якія бралі ўдзел у XV Сусьветным Дні Моладзі, па вяртаньні дадому не прызнаюцца, што былі ў Рыме. За гэта ім пагражае перасьлед з боку ўладаў, сербскіх пілігрымаў могуць выключыць з вучэльняў і нават арыштаваць. Пра гэта паведаміў Ватыканскаму Радыё малады пілігрым з Белграду, які пажадаў захаваць ананімнасьць.

Ён браў удзел і ў XII Сусьветным Дні Моладзі ў Парыжы. Тады таксама ня мог сказаць пад пагрозаю рэпрэсіяў, дзе быў на самой справе. Прычынаю гэтага, лічыць малады чалавек, зьяўляецца той факт, што каталікі ў Сербіі чужой нацыянальнасьці — харваты, венгры, славакі ці албанцы. «Нас лічаць шпіёнамі Папы і Захаду. Рэжым падтрымлівае думку, што з нашае віны дайшло да вайны з Харватыяй, Босьніяй і Косавам».

# Архіепіскап Уладзівастоцкі і Прыморскі Веньямін заклікаў РПЦ пакінуць усе экуменічныя арганізацыі

*«Я лічыў і лічу экуменізм ерасьсю і лічу, што Руская праваслаўная Царква павінна не абмяжоўвацца паўмерамі, а канчаткова пакінуць усе экуменічныя арганізацыі»,— заявіў архіепіскап Уладзівастоцкі і Прыморскі Веньямін (Пушкар) у інтэрв'ю інтэрнэтаўскаму сайту «Православие 2000».*

Архіепіскап Веньямін пацьвердзіў, што ён быў адзіным удзельнікам праведзенага ў сярэдзіне жніўня ў Маскве Юбілейнага Архірэйскага Сабору РПЦ, які галасаваў супраць прыняцьця Канцэпцыі па пытаньнях стаўленьня РПЦ да іншых канфесіяў. Сваю пазіцыю ён патлумачыў так: «Я перакананы, што мы павінны абвяшчаць Праваслаўе сучаснаму сьвету, што магчымы сумесныя дзеяньні з іншаслаўнымі ў грамадзянскай і сацыяльнай сферы. Аднак удзел у экуменічных арганізацыях зьяўляецца безварункова шкодным для Рускай Праваслаўнай Царквы». Праваслаўны ўладыка лічыць «пераадоленьне экуменізму» прыярытэтнай задачай сучаснага царкоўнага жыцьця, бо «шмат якія з раней актуальных унутрыцаркоўных пытаньняў пасьпяхова вырашаны».

Як сьцьвярджае архіяпіскап Веньямін, з дакументамі, што абмяркоўваліся на Архірэйскім Саборы, «ягоныя ўдзельнікі азнаёміліся толькі па прыбыцьці ў Маскву. Яны не былі нам разасланыя загадзя. Калі б была магчымасьць пазнаёміцца з імі раней, дык, верагодна, лёс дакументу пра стаўленьне да іншых канфесіяў быў бы зусім іншы».

Кіраўнік Уладзівастоцкай епархіі РПЦ «вельмі негатыўна» ацаніў палітыку Канстанцінопальскага Патрыярха Варфаламея ў адносінах да кананічных тэрыторыяў РПЦ. «Усяленскі Патрыярх, удзел якога ў экуменізме даўно ўжо пераўзышоў меру праваслаўнага разуменьня,— адзначыў архіяпіскап Веньямін,— праводзіць палітыку, якая фактычна скіраваная на разбурэньне Рускай Праваслаўнай Царквы».

# Міжнародны Кангрэс Хрысьціянскай культуры

15-17 верасьня ў польскім горадзе Люблін адбудзецца Міжнародны Кангрэс Хрысьціянскай Культуры «Sacrum і Культура»: Хрысьціянскія карані будучыні». Ён станецца найбольш значнай культурнай падзеяй гэтага Юбілейнага Году ў Цэнтральнай і Усходняй Еўропе. На яго прыедуць найзнакамітыя людзі навукі і культуры з усёй Еўропы: кардынал Поль Пупар, Лешак Калакоўскі, Алан Безансон, Ежы Клачоўскі, Анджэй Вайда, Рышард Капусьцінскі, Сяргей Аверынцаў, кардынал Міласлаў Влк і інш. Як паінфармаваў кіраўнік аргкамітэту Кангрэсу кс. прафесар Рышард Рубінкевіч, яго ўдзельнікі будуць спрабаваць падвесьці вынікі пазначанага таталітарызмамі XX стагоддзя, намаляваць будучыя перспектывы культуры. Тэмай выкладаў і дыскусіяў будзе таксама стаўленьне хрысьціянства да прыродазнаўчых навукаў, а таксама выклікі, якія ставяць для хрысьціянскай культуры палітыка, мас-медыя і родная культура ў перыяд глабалізацыі.

Апрача выкладаў і дыскусіяў па культуры, праграма прадугледжвае шмат культурных падзеяў: адбудуцца арганныя канцэрты, розныя выставы і прагляд фільму Кшыштафа Занусі «Жыцьцё як сьмяртэльная хвароба, якая пераносіцца целам».

16 верасьня архібіскуп Юзаф Жычынскі разам з прадстаўніком юдаізму возьме ўдзел у хэпінінгу «Адна зямля, дзьве сьвятыні». Падчас гэтае падзеі яны выкапаюць зямлю з-пад каталіцкай катэдры і былой сінагогі, а затым у гэтай зямлі будзе пасаджана вінаградная лаза.

Арганізатары плануюць таксама яшчэ адну цікавую акцыю — «дыскусію двух амбонаў». Падобныя дыскусіі некалі адбываліся ў люблінскім дамініканскім касьцёле паміж каталікамі і ератыкамі. Гэтым разам за традыцыйнымі амбонамі будуць дыскутаваць кс. праф. Юзаф Кудасевіч і Рафал Ціхі як абаронцы традыцыі ды кс. Анджэй Лютар і Рафал Вежхаслаўскі як прадстаўнікі выклікаў будучыні.

# Ватыкан папярэджвае адносна «няправільнага ўжываньня» тэрміну «Цэрквы-сёстры»

*Ватыканская Кангрэгацыя навукі веры выдала дакумент, у якім адзначаецца, што ў апошні час некаторыя каталікі няправільна тлумачаць тэрмін «Цэрквы-сёстры», і падкрэсьліваецца, што толькі Каталіцкая Царква зьяўляецца «маці» ўсіх паасобных Цэркваў.*

У шэрагу сучасных твораў на тэму экуменізму, гаворыцца ў ватыканскім дакуменце, часам робіцца спроба разглядаць Каталіцкую Царкву «на роўных» з іншымі Цэрквамі, што, на думку экспертаў Кангрэгацыі навукі веры, відавочна супярэчыць каталіцкай дактрыне.

Гэты дакумент, які мае чатыры старонкі і суправаджаецца лістом прэфекта Кангрэгацыі кардынала Ёзафа Ратцінгера, быў падпісаны яшчэ 30 чэрвеня і адразу разасланы чальцам нацыянальных канферэнцыяў біскупаў, аднак шырока вядомы стаў толькі напрыканцы жніўня і выклікаў пэўную сенсацыю сярод аглядальнікаў.

Выраз «Цэрквы-сёстры», сказана ў дакуменце, можа выкарыстоўвацца толькі для апісаньня стасункаў паміж паасобнымі Каталіцкімі Цэрквамі — напрыклад, «Царквою Рыма» — і Цэрквамі некаталіцкімі. Аднак Каталіцкая Царква ў цэлым ніяк ня можа разглядацца на ўзроўні «Царквы-сястры», бо, сьцьвярджаюць аўтары дакументу, «Адзіная, сьвятая, каталіцкая і апостальская паўсюдная Царква — не сястра, але маці ўсіх паасобных Цэркваў». «Гаворка ідзе ня проста пра пытаньне тэрміналогіі, але пра захаваньне падставовай ісьціны каталіцкай веры: веры ў адзінства Царквы Ісуса Хрыста,— гаворыцца далей у дакуменце.— З гэтага вынікае, што трэба пазьбягаць... выкарыстаньня фармулёвак тыпу «дзьве нашыя Царквы», бо ў выніку гэтага можа скласьціся ўражаньне, што існуе больш, чым адна Царква Хрыстова».

Таксама адзначаецца, што тэрмін «Цэрквы-сёстры» можа быць аднесены толькі да тых царкоўных супольнасьцяў, якія маюць «законны епіскапат і еўхарыстыю»,— у прыватнасьці, да Праваслаўных Цэркваў.

У суправаджальным лісьце кардынала Ратцінгера гаворыцца, што дакумент быў ухвалены 9 чэрвеня Папам Янам Паўлам II, і таму павінен разглядацца ў якасьці аўтарытэтнага і абавязковага. У той жа час ён не прызначаны для зьмяшчэньня ў «Acta Apostolicae Sedis» — афіцыйным зборніку ватыканскіх дакументаў, бо яго зьмест — гэта толькі «ўдакладненьне багаслоўскай тэрміналогіі па дадзеным пытаньні». Праваслаўнае інфармацыйнае агенцтва «Благовест-инфо» у сваім загалоўку пра гэты дакумент пасьпяшалася расцаніць яго як адмову ад экуменічнай «тэорыі-галінаў».

# Жанчыны-тэолагі дыскутуюць пра мацярынства і дыяканат жанчынаў

*Пра мацярынства як духоўны досьвед і магчымасьць увядзеньня дыяканату жанчынаў у Каталіцкай Царкве дыскутавалі ўдзельнікі міжнароднай канферэнцыі «Мацярынства як locus theologicus», якая была арганізавана 24-27 жніўня Еўрапейскім Тэалагічным Таварыствам Жанчынаў сумесна з Таварыствам «Вязь» («Więź»).*

Гэтае спатканьне праходзіла на працягу чатырох дзён у Каталіцкім Універсітэце Любліна (KUL). У ім бралі ўдзел жанчыны-тэолагі розных веравызнаньняў з краінаў Цэнтральнай і Усходняй Еўропы. Галоўны выклад зрабіла д-р Станіслава Грабская, якая сярод іншага сьцьвердзіла, што бачаньне Царквы як маці не знаходзіць адлюстраваньня ў душпастырскай працы Каталіцкай Царквы. Яна выказала пажаданьне пра вяртаньне да дыяканату жанчынаў, які згадваецца ў Сьвятым Пісьме і супраць якога — як яна сьцьвярджае — няма тэалагічных засьцярогаў. Іншага пункту гледжаньня прытрымліваўся прысутны на канферэнцыі архібіскуп Юзаф Жычынскі. Люблінскі ардынары сказаў, што супрацоўнікі ватыканскіх кангрэгацыяў прыйшлі да высновы, што роля згаданых у Новым Запавеце дыяканэсаў была зусім іншай, чым роля сённяшніх сакраментальных дыяканаў.

У дыскусіі на тэму мацярынства бралі ўдзел жанчыны розных станаў, веравызнаньняў і нацыянальнасьцяў: жонка праваслаўнага сьвятара, якая звычайна ў парафіі выконвае ролю «матушкі», пратэстанцкая пастарка з Чэхіі, якая зьяўляецца таксама маладой маці; ад Каталіцкай Царквы былі польская маці, якая кіруе сямейным домам дзіцяці, і манашка. Сумесная выснова, да якой дайшлі дыскутанткі, такая: мацярынства — гэта найперш тварэньне. Акрамя гэтага, мацярынства — гэта досьвед «вернай і далікатнай прысутнасьці», які таксама зьяўляецца падставовым досьведам веры.

## Наш летапіс

***

**Слонімскую грэка-каталіцкую парафію Сьвятой Тройцы ў сярэдзіне ліпеня наведалі манахі-базыльяне са Львова, якія вярталіся на Ўкраіну.**

**Браты Іван і Язафат распавялі слонімскім вернікам (некаторыя з іх у сёлета таксама ўпершыню змаглі далучыцца да пілігрымкі) пра свае ўражаньні ад гэтай падзеі. Грэка-каталікі з Украіны пазнаёміліся са старажытным Слонімам і ягонымі храмамі. Пабывалі і ў славутым Жыровіцкім манастыры, які па-сапраўднаму расквітнеў менавіта пры базыльянах. Тут працаваў сьв. Язафат Кунцэвіч. Пілігрымы памаліліся ля цудатворнай іконы Маці Божай.**

**Манахі ўсьцешылі слонімскіх вернікаў прыгожымі украінскімі рэлігійнымі і народнымі сьпевамі.**

**Дарэчы, у пасьляваенны перыяд, калі Грэка-Каталіцкая Царква знаходзілася ў падпольлі, адзін украінскі сьвятар-базыльянін на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў час ад часу патаемна прыязджаў у Слонім, дзе адпраўляў набажэнства для мясцовых вернікаў, маліўся ля Жыровіцкае іконы Маці Божай, а зрэдку нават езьдзіў у Віцебск і Полацак, каб ушанаваць памяць сьвятога мучаніка Язафата і Полацкіх мучанікаў, забітых царом Пятром.** ❑

***

**3 верасьня ў Берасьці пры душпастырскім цэнтры грэка-каталіцкай парафіі сьвятых братоў апосталаў Пятра і Андрэя ўпершыню пачала працу нядзельная школа для дзяцей. Пакуль набрана толькі адна група дзяцей ва ўзросьце з 7 да 11 гадоў. Важна адзначыць, што заняткі з дзеткамі мусяць праходзіць абавязкова разам з бацькамі. Ёсьць спадзяваньне, што такім чынам бацькі таксама будуць узмацняць сваю веру разам са сваімі дзецьмі.**

**Праграма навучаньня разьлічана на тры гады. За аснову ўзята праграма, распрацаваная ў Пецярбургска-Маскоўскім каталіцкім цэнтры катэхізацыі, перакладзеная на беларускую мову і адаптаваная для грэка-католікаў рэдакцыяй газеты «Царква». Грэка-каталіцкія парафіі Беларусі могуць замовіць у рэдакцыі «Царквы» адмысловыя навучальныя сшыткі для дзяцей.** ❑

*Інфармацыя падрыхтавана паводле паведамленьняў KAI, «Благовест-инфо» і іншых прэсавых крыніцаў.*

# Беларуская моладзь на XV Сусьветным Дні Моладзі ў Рыме

*Пасьля таго, як беларуская грэка-каталіцкая моладзь вярнулася з пілігрымкі ў Рым, дзе адбыўся XV Сусьветны Дзень Моладзі, мы папрасілі некаторых удзельнікаў, якія былі ў розных групах, расказаць пра свае ўражаньні і адказаць на два пытаньні:*

***1. Якія найбольш яркія ўражаньні засталіся ў вас пасьля пілігрымкі ў Рым на Сусьветны Дзень Моладзі?***

***2. Як выглядалі маладыя беларускія грэка-католікі сярод іншых маладых хрысьціянаў сьвету?***



**Алена Грынкевіч, настаўніца з Берасьця**

1 Гэта незвычайныя ўражаньні! Найперш мяне ўразіў сам Рым. Была страшэнная гарачыня, і здавалася, што тут, у Рыме, час спыніўся, усё замерла. Адчуваеш, што для Бога няма часу. Мне здавалася, што я трапіла ў іншы сьвет, дзе прысутнічае адно Бог. Моцна ўразіла магутнасьць і еднасьць Каталіцкай Царквы. У Рыме сабраліся каля 2 мільёнаў маладых вернікаў. Былі католікі самых розных абрадаў і нацыянальнасьцяў, з розных краінаў, нават з такіх краінаў, як Палестына, дзе, я думала, сёньня адныя мусульмане, ці з Індыі. Усе яны — у сваім трацыйным адзеньні.

Мне запомніліся мае асабістыя сустрэчы з вернікамі розных нацыянальнасьцяў. Моўны бар'ер — гэта, вядома, была перашкода для нас, але ў Рыме і яна часта зьнікала. Напэўна, Бог дапамагаў нам разумець адзін аднаго. На другі дзень, калі мы шукалі катакомбы і храм сьв. Себасьцяна, да нашай групы беларускіх грэка-католікаў «прыбіўся» малады немец, які згубіў сваю групу. Я вельмі слаба валодаю ангельскай мовай, нямецкай ня ведаю, а гэты 17-гадовы немец гаварыў па-ангельску яшчэ горш. Але ўсё роўна мы неяк паразумеліся: Сымон распавёў нам пра сябе, пра сваю групу, а я здолела патлумачыць яму, што мы грэка-католікі, што я з Берасьця, з Беларусі. Мы тады так і не змаглі знайсьці царквы і катакомбаў ды зайшлі ў сквер, каб



**Андрусь САЛАДОЎНІКАЎ, супрацоўнік музея з Гомеля**

1 Невялікая група беларускіх грэка-католікаў, з якой я трапіў у Рым, складалася выключна з хлопцаў, якія былі з розных куткоў Беларусі — з Гомеля, Горадні, Маладэчна, Менску і з м.Дамачава пад Берасьцем. Нашая пілігрымка ў Рым на Сусьветны Дзень Моладзі стала магчымай дзякуючы супрацоўніцтву з французамі. У Францыі мы прыяднаціся да маладых католікаў з гораду Рэймс. Тут мы рыхтаваліся да пілігрымкі. Перад самым выездам з Рэймсу мы бралі ўдзел у маладзёвай літургіі з вясёлымі сьпевамі, падобнымі да сьпеваў Тэзэ. Узначальваў яе біскуп. У нас атрымалася даволі вялікая група — пяць аўтобусаў на чале з біскупам. Біскуп, дарэчы, быў вельмі цікавы, просты і адкрыты чалавек. У Рыме ён хадзіў увесь час у чырвонай бейсболцы з трубкай у зубах і з усімі жартаваў. Неяк я аднойчы пабачыў яго, калі ён гаварыў са сьвятаром. Я хацеў ціхенька прайсьці міма, каб не перашкаджаць, але сьвятар сказаў біскупу, што я з Беларусі, дык біскуп, працягнуў мне руку, вельмі цёпла павітаўся са мною. Такіх адкрытых і простых адносінаў з боку высокага царкоўнага кіраўніцтва я ў Беларусі, асабліва ў праваслаўі, ня бачыў.

На Сусьветны Дзень Моладзі з намі паехалі таксама інваліды, і мне было цікава назіраць за адносінамі маладых французаў да гэтых людзей. Сярод інвалідаў былі маладыя людзі з хваробай Даўна, былі нерухомыя, якіх везьлі на інвалідных калясках, і мяне вельмі ўразілі тыя цёплыя адносіны паміж здаровымі маладымі людзьмі і хворымі. У іх бачылі найперш асобаў і адпаведна ставіліся да іх: з павагай, клопатам, давалі ім магчымасьць выказацца, перадавалі мікрафон, каб быў пачуты і іхні голас. Яны разам разважалі, дыскутавалі, разам жартавалі, словам, было бачна, што гэта — адна сям'я! Маладым вернікам з фізічнымі недахопамі ўвесь час давалі магчымасьць адчуць сябе самым нармальным і паўнавартасным чалавекам, і я нават у пэўным сэнсе зайздросьціў ім, калі бачыў іхнія адносіны. Я думаю, што ў Францыі, у рэабілітацыйных установах, дзе гэтыя маладыя людзі знаходзяцца ўвесь час, да іх таксама добра ставяцца, але ў пілігрымцы, дзе маладыя вернікі былі ўсе разам, дзе вера мае вялікую каштоўнасьць для ўсіх, яны, напэўна, асабліва моцна адчулі хрысьціянскую любоў. Калі нашая пілігрымка заканчвалася, усе проста плакалі, не хацелі расставацца. Напэўна, гэта ёсьць маё самае моцнае ўражаньне пасьля Дзён Моладзі ў Рыме.



Па дарозе ў Рым мы завіталі ў Фларэнцыю і жылі ў адной вясквайх парафіі за 12 кіламетраў ад горада. Тут нас вельмі добра прымалі. Мы мелі вандроўку па Фларэнцыі, наведвалі розныя цэрквы, для нас рабіліся адмысловыя выклады-рэкалекцыі.



Група беларускіх грэка-католікаў ля сабору сьв. Пятра

У Рыме мяне моцна ўразілі храмы горада, яго базілікі. Найбольш уразіла, вядома, плошча з базілікай сьв. Пятра і базіліка сьв. Паўла.

Я ўжо другі раз на падобных сустрэчах моладзі (першы раз быў на Сусьветным Дні Моладзі ў Чэнстахове), і для мяне галоўнае ўражаньне — гэта адчуваньне еднасьці з Паўсюднай Царквой, адчуваньне паўсюднасьці Каталіцкай Царквы. Побач былі самыя розныя людзі — французы, італійцы, чылійцы, венесуэльцы, вернікі з розных краінаў Афрыкі... І ўсе гэтыя людзі моляцца, разам сьпяваюць. Яны вельмі маладыя і вясёлыя, яны ўсё робяць і жывуць з Хрыстом, што проста здарова!

У Рыме мы трапілі ў цікавую маленькую інтэрнацыянальную групу ўнутры вялікай французскай. Ёю апекаваўся малады французскі сьвятар з вясковай парафіі з-пад Рэймса — айцец Дамінік. Гэта быў вельмі пабожны малады сьвятар, які меў няпросты шлях да Бога — ён быў вайскоўцам, лётчыкам, потым адчуў пакліканьне, стаў сьвятаром. У групе з намі былі таксама негры з Афрыкі, у прыватнасьці з Кот-д'Івуар. Гэта вельмі вясёлыя і пабожныя католікі, якія ўсіх запалялі сваімі сьпевамі, танцамі. Акрамя французаў, яшчэ былі гішпанец і гішпанка. Дарэчы, сярод французаў быў адзін малады супрацоўнік з нейкага міністэрства — вельмі пабожны чалавек. Сустрэчы з усімі гэтымі маладымі вернікамі мне запомніліся надоўга.

Вельмі цікавае было малітоўнае спатканьне моладзі з Папам Рымскім на пляцы Тор Вэргата ва ўнівэрсітэцкім гарадку на ўскраіне Рыму. Гэтаму папярэднічала чуваньне амаль двух мільёнаў моладзі. Мы амаль суткі разам маліліся, сьпявалі. Гэтае пачуцьцё еднасьці, калі шмат маладых людзей разам, усе моляцца, сьпяваюць, жартуюць, дае моцны энергетычны зарад. Тым больш, што гэта адбывалася з Папам! Гэта мне найбольш запомнілася, хоць было шмат яшчэ розных падзеяў.

**2** Параўноўваючы французаў з нашай моладдзю, хачу сказаць, што яна мне вельмі спадабалася. Мы мелі магчымасьць сустракацца найперш з вернікамі, і я хачу сказаць, што ў плане веры яны маюць перавагу перад беларусамі. Сапраўдным адкрыцьцём для мяне сталі негры з Кот-д'Івуар, таксама цікава было пазнаёміцца з гішпанцамі. Нашым маладым вернікам варта павучыцца ў французаў, каб была такая сапраўдная сяброўская любоў і хрысьціянская дапамога, якая была ў іх групе, дзе былі інваліды, каб палюбілі бліжняга як самога сябе, як сказаў Хрыстос. Такога шчырага звароту да Бога, які я бачыў у гэтых неграў, нам яўна не хапае. Бо яны сапраўды шчырыя як дзеці. Калі яны сьпявалі песьню ў гонар Марыі, настолькі адчувалася, што гэта дзеці, якія зьвяртаюцца да сваёй Маці. Вось і нам бы паболей такой шчырасьці і непасрэднасьці, бо як сказаў Хрыстос, як ня будзеце як дзеці — ня ўвойдзеце ў Валадарства нябеснае. Я думаю, што ў нашым абрадзе гэтая весялосьць і адкрытасьць таксама можа быць. Нашая традыцыя дае для гэтага моцны грунт, які дазваляе зьнешне паказваць тое, што ў цябе ўнутры — ў душы. Паглядзеўшы на моладзь з Еўропы, з усяго сьвету, бачыш, што яны больш адкрытыя, больш простыя. Нашы людзі больш скаваныя, закамплексаваныя. Часам нават здаецца, што ў некаторых больш зьнешнай пабожнасьці, нейкай нават манаскай суворасьці. Я думаю, што тут дае знаць яшчэ савецкая спадчыннасьць, закрытасьць людзей, якія жывуць на постсавецкай прасторы. Мы прывыклі хаваць свае эмоцыі, сваю шчырасьць.



адпачыць. У гэтым месцы мы разам з гэтым немцам Сымонам маліліся, дзяліліся сваімі перажываньнямі. Мы распавядалі пра свае ўражаньні на сваёй роднай, беларускай мове, а ён гаварыў па-нямецку. Усё роўна мы паразумеліся! Я ня ведаю як, але агульны сэнс і мы, і ён зразумелі. Напрыканцы мы разам прачыталі малітву «Ойча наш», кожны на сваёй роднай мове.

Добрым вынікам нашай пілігрымкі я лічу тое, што мы пазнаёміліся з беларускімі рыма-католікамі. Мы мала ведаем пра іх, а яны яшчэ меней — пра нас, грэка-католікаў. І гэта сустрэча дала надзею, што нашыя маладзёвыя стасункі тут, у Беларусі, змогуць працягвацца і будуць умацоўвацца. Мы не павінны жыць замкнёныя ў сабе!

Але самая яркая, самая незабыўная падзея Сусьветных Дзён Моладзі — малітоўнае чуваньне і сустрэча з Янам Паўлам ІІ. Запомніўся і цудоўны феерверк. Калі Ян Павел ІІ агледзеў такую вялікую колькасьць маладых хрысьціянаў, якія дружна скандзіравалі: *«Viva, Papa, Viva!» «Giovanni Paolo! Giovanni Paolo!»*, мы пабачылі на вялікім экране, як па ягоным твары пацяклі сьлёзы, і тады ўсім нам хацелася плакаць разам з ім ад таго моцнага пачуцьця радасьці і любові, якое перапаўняла нашыя сэрцы.

**2** Мяне ўразіла і нацыянальная еднасьць кожнай групы. Нам, беларусам, на жаль, гэтага не хапала. Нас, беларускіх грэка-католікаў, было вельмі мала. Рыма-католікі з Беларусі былі асобна, ды і яны сярод іншых народаў былі ня надта прыкметныя. У беларусаў не было такой моцнай згуртаванасьці, як у іншых народаў. Усе нацыянальныя групы вылучаліся гучнымі зладжанымі сьпевамі ў сотню галасоў, пад якія проста весела ісьці разам. У нас такога досьведу яшчэ няма. Я ў пэўным сэнсе зайздросьціла іншым групам, мне хацелася быць часьцінкай гэтага адзінага калектыву. Нам не хапае звычайных вясёлых сьпеваў. Хоць, можа, гэта праява нашай ментальнасьці?.. Нашыя вернікі падазрона ставяцца да нетрадыцыйных формаў малітвы і выказваньня сваіх пачуцьцяў. Нам не хапае адкрытасьці. Іншыя вернікі могуць таньчыць, узняўшы рукі, і пры гэтым маліцца. Нашыя ж людзі баяцца проста падняць руку, зрабіць некалькі рухаў... Яны скаваныя і замкнёныя. Я думаю, што так не павінна быць.

*Працяг на с.10* ⇨



# Сьвятар, які сьведчыць любоў да Бога і Бацькаўшчыны

***Размова ў рэдакцыі «Царквы» з Апостальскім візітатарам для беларусаў-католікаў у замежжы айцом-мітратам Аляксандрам НАДСАНАМ ****



***— Чаму цэнтр жыцьця беларускіх уніятаў на эміграцыі паўстаў менавіта ў Англіі? Чаму не ў каталіцкіх краінах — Францыі, дзе быў моцны асяродак на чале з а. Л.Гарошкам, які выдаваў часопіс «Божым шляхам», не ў Рыме, у Італіі, дзе было шмат жаўнераў-беларусаў з арміі Андэрса, чаму не ў Бельгіі ў Лювэне, дзе вучылася шмат беларусаў у слынным каталіцкім універсітэце, а ў пераважна пратэстанцкай Англіі?***

— У Італіі беларусы былі часова: пакуль была вайна, там апынулася нямала беларусаў, а потым яны амаль усе эмігравалі, многія ў Англію. У тым ліку і а. Часлаў Сіповіч, які раней вучыўся ў Рыме і быў там у 1940 годзе высьвячаны на сьвятара. У 1947 годзе ён прыехаў у Лондан і залажыў там беларускую каталіцкую місію ўсходняга абраду з царквой Пятра і Паўла.

Падобна адбылося і ў Нямеччыне. Амаль усе беларусы, што знаходзіліся ў лагерах для перамешчаных асобаў, зьехалі ў Амерыку, Канаду, Аўстралію і іншыя краіны. У Лювэне ў Бельгіі былі пераважна беларусы-студэнты. Праз нейкі час яны скончылі вучобу ды таксама разьехаліся. У еўрапейскіх краінах, Францыі і Бельгіі, былі тады горшыя ўмовы для існаваньня, цяжэйшай была эканамічная і матэрыяльная сітуацыя. І таму ў гэтых краінах проста не было персьпектывы. У Англіі было лепей, там ужо былі пэўныя ўмовы. Да таго ж у Англіі таксама ёсьць католікі. У Лондане ёсьць Каталіцкі місіянерскі інстытут, дзе навучаюцца студэнты на бакалаўраў багасловія. Там забясьпечаны дастаткова высокі ўзровень выкладаньня.

***— Менавіта ў гэтым місіянерскім інстытуце вучацца студэнты-беларусы, якім Вы дапамагаеце атрымаць багаслоўскую адукацыю?***

— Так, сапраўды, там вучыцца некалькі чалавек з Беларусі, але таксама ў Лювэне ў Бельгіі. Я спадзяюся, яны атрымаюць добрыя веды, асабліва ў старажытных мовах — грэцкай, лацінскай, габрэйскай. Для багасловаў веданьне моваў вельмі важнае.

***— Што Вы думаеце адносна розных перакладаў Сьвятога Пісьма на беларускую мову, якімі сёньня карыстаюцца вернікі ў Беларусі? Існуе зроблены яшчэ да вайны пераклад баптысцкага сьвятара з Берасьця Лукаша Дзекуць-Малея, які быў скарэктаваны Антонам Луцкевічам, кс. Вінцэнта Гадлеўскага, сучасныя пераклады Васіля Сёмухі, кс. Уладзіслава Чарняўскага, Анатоля Клышкі, пераклады, зробленыя праваслаўнымі. Які з іх Вам асабіста падаецца больш удалым, больш дакладным?***

— Карыстацца беларускімі перакладамі вернікам, безумоўна, можна. Але, на жаль, усе гэтыя пераклады маюць свае хібы. Добра, безумоўна, што гэтыя пераклады ёсьць. Яны запаўняюць пэўныя патрэбы вернікаў. Лепшы за іншыя для мяне пераклад Анатоля Клышкі. Але пераклад Сьвятога Пісьма абавязкова павінен рабіцца з арыгінальнай мовы...

Маю надзею, што мае студэнты атрымаюць добрую адукацыю і змогуць зрабіць гэтую неабходную працу якасна, бо будуць мець добрую багаслоўскую і моўную падрыхтоўку.

***— Поўнага перакладу Біблії на беларускую мову мы ня маем, апрача перакладу эміграцыйнага дзеяча Янкі Станкевіча?***

— Янка Станкевіч ня ведаў ні грэцкай, ні габрэйскай, ні нават лацінскай мовы. Яго пераклады трошкі падпраўляў габрэй Ліпкін, які ведаў мову. Але беларуская мова ў Станкевіча вельмі дзіўная...

***— Ужо мінула дзесяць гадоў з часу адраджэньня Уніі ў Беларусі. Ваш погляд на гэты перыяд у разьвіцьці нашай Царквы? Якія былі спадзяваньні тады, калі Вы першы раз прыехалі на Бацькаўшчыну? У чым Вы бачыце карані праблемаў нашай Царквы?***

— Я тады ні на што не спадзяваўся. Можна толькі дзякаваць Госпаду Богу за тое, што маем сёньня. Крышку сумна, бо можна было і лепш разьвіцца. Тады пачынаўся час экуменізму і некаторыя ў Рыме са зьдзіўленьнем пазіралі на адраджэньне нашай Царквы. І гэтае асьцярожнае стаўленьне да нас прытармазіла нашае разьвіцьцё. Нават у каталіцкіх колах ёсьць тыя, хто дрэнна зразумеў экуменізм і лічыць, што мы перашкаджаем у кантактах з праваслаўнымі.

Іншая прычына цяжкасьцяў — не надта прыхільнае стаўленьне ўладаў, нават пры Шушкевічы. У нас няма храмаў. Царкву сьв. Язэпа ў Менску нам так і не перадалі, хоць рашэньне ўладаў пра гэта і было. Там па-ранейшаму архіў.

Я цешуся, што нягледзячы на ўсе абставіны ідэя Уніі прыжылася ў Беларусі, хоць і з вялікімі цяжкасьцямі. Добра, што наша Царква ўсё ж жыве і паціху разьвіваецца.

Адна з вострых нашых праблемаў — адсутнасьць сьвятароў. Яе ня вырашыць хутка. І ёсьць яшчэ шмат праблемаў.

***— Як Вы глядзіце на вопыт міжваеннай Уніі, калі ўніяцкімі сьвятарамі станавіліся сьвятары лацінскага абраду ці былыя праваслаўныя?***

— Безумоўна, на кожны выпадак трэба глядзець індывідуальна. Але я ня думаю, што тады ўсё было добра прадумана і падрыхтавана. Перадусім уся акцыя неауніі была скіравана не на Беларусь, але на Расею. Беларусь была толькі калідорам на Расею. У неауніі быў найперш расейскі зьмест, пачынаючы ад

** Пачатак размовы з а. Аляксандрам Надсанам глядзіце ў папярэднім нумары «Царквы» № 2(25), 2000.*

літургічнай вопраткі сьвятароў. І вялікага даверу ў заходнебеларускім грамадстве яна не займела. Да таго ж было мала сьвятароў-беларусаў. Як толькі прыйшоў 1939 год, амаль усе тыя сьвятары — ці з праваслаўя, ці з лаціньнікаў-бірытуалістаў, што працавалі ў рэчышчы неауніі,— зьніклі ці зьехалі з Беларусі. Засталіся тыя, што былі верныя беларусам,— фактычна толькі Неманцэвіч, Аношка ды Гарошка.

***— Ці сапраўды можна лічыць 1939 год пачаткам існаваньня Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы як самастойнай паместнай Царквы? Быў утвораны Беларускі Экзархат...***

— Так, гэта мітрапаліт Андрэй Шаптыцкі зрабіў. Цікава, што да вайны мітрапаліту Шаптыцкаму польскімі ўладамі забаронена было ўмешвацца ў жыцьцё іншых епархіяў, дзе былі ўніяты. Нават на Валыні ён ня меў юрысдыкцыі, толькі на Галічыне. Для Валыні і Палесься быў Апостальскі візітатар біскуп Мікалай Чарнецкі. Але ўсе ўніяцкія сьвятары былі пад лацінскімі біскупамі-палякамі, якія ў большасьці толькі цярпелі Унію. Хіба толькі пакуль быў біскуп Зыгмунт Лазінскі... Мікалай Чарнецкі фактычна ня меў ніякай улады над сьвятарамі. Таму справа неауніі была даволі штучнай. Харбін, Альбярцін, Эстонія — усё гэта рабілася выключна з разьлікам на Расею, і беларусы фактычна ігнараваліся. У нас шмат гаворыцца пра марыянаў у справе Уніі. Але і марыяне не пасьпелі зрабіць нічога ў Беларусі. Усе іхнія выхаванцы паехалі ў Харбін. Маладых студэнтаў-беларусаў, якім так хацелася працаваць для Беларусі, накіроўвалі на расейскія місіі. Такія марыяне, як Тамаш Падзява і інш., яны ж і дня ў Беларусі не былі! Нават Часлава Сіповіча, які вучыўся тады ў Рыме ў Русікуме, рыхтавалі для Харбіна — вайна перашкодзіла.

***— У чым ёсьць адметнасьць беларускай візантыйскай традыцыі? Чым яна розьніцца ад маскоўскай, украінскай, грэцкай, чым розьніцца ад той традыцыі, што ёсьць у сучаснай Праваслаўнай Царкве ў Беларусі?***

— Трэба прыглядзецца ў XVII-XVIII стагоддзе. Там нашыя карані. Шмат чаго з таго ў нас зьнікла. Стрыжань жа ва ўсіх традыцыяў той самы. Узяць грэцкі тэкст нашай візантыйскай сьв. Літургіі — гэта будзе аднолькавае. Вонкавыя абалонкі ў нас могуць крышку мяняцца, але ўнутры — усё тое самае.

***— Вы згадалі пра неабходнасьць прыглядацца ў XVII-XVIII стагоддзе. Але ж тады была лацінізацыя Ўніяцкай Царквы. Да яе, дарэчы, многія беларусы ставяцца з сімпатыяй, як да свайго, роднага, уласна беларускага. Але ў той жа час лацінізацыя як быццам асуджаецца. Сёньня сярод вернікаў шмат дыскусіяў пра тое, на што нам арыентавацца...***

— Я не хачу казаць пра нейкую сваю пазіцыю дакладна, бо адраджэньне Царквы яшчэ толькі пачынаецца. А тое, што разважаеце, што ёсьць такія дыскусіі,— гэта добра. Я думаю, трэба ісьці да XVII стагоддзя і шукаць сваё. Я не кажу, што трэба браць усё, трэба рабіць скідку на XXI стагоддзе. Мы ня можам рабіць усё тое, што было ў Царкве тады. Але Царква — гэта абрад. Я ня ведаю — гэта добра для мяне ці дрэнна, але я маскоўскага абраду ня знаю, я яго ніколі сьпецыяльна не вывучаў. Я выхаваны на грэцкай традыцыі, якая, я лічу, значна бліжэй да нашай аўтэнтычнай традыцыі. Я бачыў мельхітаў-арабаў, якія моляцца на арабскай мове, але яны таксама маюць візантыйскі абрад. Італа-албанцаў у Калабрыі бачыў. І яны маюць сваё, але ўсё, тым ня менш, падобнае да грэцкага. У славакаў у служэбніках сёньня ёсьць адрозьненьні. Імі былі зроблены некаторыя зьмены, на якія ў нашай Царкве, я думаю, мы ня можам пайсьці.

Што такое лацінізацыя і што — нелацінізацыя? Лацінізацыяй часта называюць тое, што ёй ня ёсьць. Скажам, узяць амбоны. Усе лічаць, што гэта лацінізацыя. Але амбоны прыйшлі з Грэцыі, засталіся ў праваслаўных грэцкіх храмах!

Я думаю, што калі ідзе дыскусія вакол Царквы — гэта ёсьць здаровая рэч. Тады ўсе змогуць выказаць свае думкі. Але апошняе слова павінна быць за біскупамі. Нашая Царква яшчэ маленькая, незавершаная — трэба дачакацца, калі зьявяцца свае біскупы ў Беларусі, будзе Сінод сьвятароў, калі будзе трошкі болей людзей, якія здабылі літургічную асьвету — тады можна будзе гаварыць больш грунтоўна і прымаць неабходныя рашэньні. Тады будуць прааналізаваны ўсе традыцыі, усе магчымасьці. Патрэбны гістарычныя досьледы. Які, скажам, быў абрад на нашых землях у XVII стагоддзі, да Замойскага сіноду? Ён ня быў ніканаўскі, як у Расеі. У праваслаўных і ўніятаў пры мітрапаліце Магіле былі адныя служэбнікі. Ніканаўская рэформа ніколі не прымалася ў нас, наш абрад фармаваўся самастойна ў сваіх абставінах. Таму маскоўскі абрад — гэта ня наш абрад, нам яго сілаю накінулі пасьля скасаваньня Уніі!

***— Лацінская літургія пасьля II Ватыканскага Сабору ў значнай ступені была рэфармавана з мэтаю, каб зрабіць яе больш зразумелай для людзей. Ці бачыце Вы неабходнасьць нейкіх падобных зьменаў у візантыйскай літургіі?***

— Вазьміце Грэцкую Праваслаўную Царкву: там ужо царскія дзьверы не зачыняюць, каб людзі бачылі сьвятыя Дары. Некаторыя літаніі скарацілі ды іншае. Думаю, правільна, калі чытаньне Апостала і Евангельля адбываецца тварам да народу, гэтак лепей. Ёсьць асобныя малітвы, якія, на мой погляд, можна апусьціць, бо яны перарываюць нармальны ход набажэнства. Прыкладам, пасьля словаў асьвячэньня перад эпіклезай ёсьць малітва-трапар «Господи, иже Пресвятого Духа», яна зусім не патрэбная! Гэта штучная ўстаўка пазьнейшага паходжаньня.

***— Айцец Аляксандр, Вашыя пераклады літургічных тэкстаў на беларускую мову многія ацэньваюць вельмі высока ў параўнаньні з аналагічнымі, якія робяцца праваслаўнымі, як мясцовымі, так і тымі, што на эміграцыі. Ці шмат яшчэ трэба перакласьці?***

— Я думаю, што самыя важныя літургічныя тэксты ўжо перакладзены. Цяпер я бы хацеў выдаць малітоўнік, крыху таўсьцейшы за той, што мы маем, старонак на чатырыста-пяцьсот, каб мець там тэксты сьв. Літургіі, зьменныя часткі, крыху псальмаў, прыватных малітваў і інш., каб мець усё гэта разам. Мною перакладзены псальмы, я цяпер іх аддаў сьпецыялісткам для перагляду, яны іх адкарэктуюць, і, я думаю, будзем мець іх ужо да канца гэтага году.

***— Айцец Аляксандр! У інтэрвью «Нашай Ніве» вы згадалі, што цяпер працуеце над кнігай па гісторыі Царквы. Можа, скажаце пра яе?***

— Так, сапраўды я распачаў такую працу. Але пакуль я не хацеў бы гаварыць пра гэта, бо праца яшчэ ня зроблена.

***— Што б Вы хацелі перадаць ці пажадаць нашым чытачам, беларускім грэка-католікам?***

— Хацеў бы пажадаць, каб расьлі ў ласцы Божай, былі вернымі сваёй Царкве і Бацькаўшчыне. Вельмі важна, каб былі актыўнымі вернікамі, дапамагалі сваім сьвятарам, бо сьвятару аднаму цяжка. Паміж сьвятарамі і вернікамі павінен быць добры і сталы кантакт. Гэта вельмі важна! Трэба маліцца, каб у нас было болей сьвятароў, каб былі сьвятарскія пакліканьні сярод моладзі.

*Гутарыў* **Ігар Бараноўскі**

# Беларуская моладзь на XV Сусьветным Дні Моладзі ў Рыме

⇨ Заканчэньне са с.6-7



**Насьця Ільіна, студэнтка з Берасьця**

1 Сёньня, калі ўжо мінуў пэўны час пасьля Сусьветнага Дня Моладзі ў Рыме, мне ўзгадваюцца найперш ня тыя цудоўныя храмы, а моладзь, якая была там, тое незабыўнае пачуцьцё еднасьці, якое было паміж намі. Гледзячы на людзей, радавалася, што моладзь верыць у Хрыста, што нас аб'ядноўвае менавіта любоў да Хрыста. Важна, што гэтае адчуваньне было ня толькі на Літургіі, калі мы маліліся, але нават калі мы проста гулялі па горадзе. Радасьць, жыцьцё, маладосьць і свабода — усё гэта было ў Рыме. Ад самога Рыму ў мяне ў нейкі момант зьявілася нават стомленасьць, але радасьць перапаўняла мяне, бо ўвесь час была адчувальная прысутнасьць Хрыста. Ты больш, што Рым — гэта гісторыя хрысьціянства, якая прасьледжваецца тут ад першых мучанікаў-хрысьціянаў да нашых дзён. Тут ці ня кожны храм напоўнены духам першых хрысьціянаў, мучанікаў Царквы. Адчуваеш, што Рым — гэта вымалены горад, тут можна прыпыніцца на кожным месцы і маліцца, адчуваючы прысутнасьць Сьвятога Духа.



Падчас Дзён Моладзі мне таксама запомніліся рэкалекцыі са сьв. Літургіяй у парку пад адкрытым небам, дзе мы былі разам з украінскімі грэка-католікамі. А яшчэ мы, беларускія грэка-католікі, пабывалі ў рымскім храме сьв. Сяргея і Вакха, з якім моцна зьвязана гісторыя нашай Уніяцкай Царквы. У ім мы маліліся і сьпявалі песьні ля цудатворнай іконы Маці Божай Жыровіцкай.

Калі мы прыйшлі ў Сабор сьв. Пятра, мы захацелі таксама абавязкова памаліцца ля мошчаў сьв. Язафата. Аднак час ішоў, а мы ніяк не маглі адшукаць гэтага месца ў вялікім храме. І калі ўжо зьбіраліся адыходзіць, як апошняя надзея, адна з нашых дзяўчынак вырашыла засьпяваць песьню ў гонар сьв. Язафата: «О, Язафаце, мы цябе клічам, магутны патроне...». І Язафат пачуў гэтыя словы і прывеў нас да сябе! Гэты выпадак мяне моцна ўразіў.

Вельмі моцнае ўражаньне пакінуў апошні дзень у Рыме, калі была сустрэча з Янам Паўлам II і было ўрачыстае закрыцьцё Сусьветных Дзён Моладзі. Я адчувала вялікую любоў і павагу да Папы Рымскага, дзякавала Богу за тое, што Ён даў нам такога сьвятога чалавека, які служыць для нас прыкладам. У гэты час сэрца проста перапаўнялася радасьцю і цёплымі пачуцьцямі.

Асабіста мне яшчэ моцна запомнілася нашая падрыхтоўка да Сусьветнага Дня Моладзі. Нашая група з сямі чалавек (2 хлопцы і 5 дзяўчат з Менску, Магілёву і Берасьця) трапіла ў Польшчу ў Вадовіцы, на радзіму Яна Паўла II. Там мы рыхтаваліся да Рыму, у нас была магчымасьць маліцца, спавядацца, пакланяцца сьв. Дарам, проста гаварыць са сьвятарамі. Для нас былі арганізаваныя духоўныя варштаты, у якіх бралі ўдзел некалькі соцень маладых людзей з супольнасьці «Эмануэль» з усёй Польшчы, а таксама з краінаў былога СССР. Падчас варштатаў мы дыскутавалі ў групах па самых розных цікавых тэмах, напрыклад: «Асабістая малітва», «Новая евангелізацыя», «Палітыка і Царква», «Секты», «Радасьць у жыцьці», «Адносіны паміж хлопцамі і дзяўчатамі».

На Сусьветным Дні Моладзі мне вельмі спадабалася адкрытасьць моладзі, адкрытасьць іхніх сэрцаў да Бога, радасьць і шчырасьць у адносінах моладзі між сабой. Радавала, што моладзь можа зьбірацца разам у такой вялікай супольнасьці, што ўсе мы вернікі, хрысьціяне-каталікі, і мы, беларускія грэка-католікі — частка гэтай вялікай маладой сям'і.

2 Мне здалося, што мы, беларусы, больш замкнёныя і акамянелыя ў традыцыі свайго абраду. Асабіста ў мяне гэтага адчуваньня не было, але я адчувала, што іншая культура, іншы абрад і спосаб малітвы далёка ня ўсім, хто быў са мной, быў даспадобы. У некаторых нашых грэка-католікаў у вачах чыталася нейкая падазронасьць, недавер да іншага, што ня нашае. Шкада. Мы мусім не забываць, што іншыя формы малітвы — гэта таксама зварот да Бога.

# Юбілейная пілігрымка ў памяць пра Полацкіх мучанікаў і ў гонар 2000-годдзя хрысьціянства

З 11 па 15 ліпеня гэтага году адбылася Юбілейная пілігрымка беларускіх грэка-каталікоў з нагоды 2000-годдзя хрысьціянства і 295-й гадавіны мучаніцкай сьмерці полацкіх манахаў-базыльянаў. Яны былі закатаваныя расейскім царом Пятром І і ягонай сьвітай у храме сьв. Сафіі ў Полацку 11 ліпеня 1705 году ў час, калі адпраўлялі набажэнства. Дзеля ўслаўленьня гэтых мужных сьведкаў веры Хрыстовай тут, на зямлі, і ўрачыстай кананізацыі іх Каталіцкай Царквой, пачынаючы з 1995 году, ладзяцца штогадовыя пілігрымкі вернікаў Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы. Далучаюцца таксама і іншыя вернікі.

Сёлетняя пілігрымка была самай шматлікай. У ёй бралі ўдзел каля 120 пілігрымаў з розных гарадоў Беларусі, а таксама Украіны. З Усьпенскай горкі ў Віцебску, дзе загінуў сьв. Язафат Кунцэвіч, пілігрымы рушылі ў шлях, каб прайсьці больш за сто кіламетраў праз населеныя пункты, дзе няма ніводнай царквы альбо касьцёла.

Пілігрымка — гэта больш, чым звычайны паход. Вернікі штодня ўдзельнічалі ў сьвятой Літургіі, мелі магчымасьць скарыстаць са сьвятой Споведзі ці проста паразмаўляць са сьвятаром, сустрэцца з братамі і сёстрамі з іншых куткоў Беларусі. Падчас прыпынкаў пілігрымы слухалі навуку ці дзяліліся духоўнымі перажываньнямі ў групах. Начлегі ў школах, якія мелі дзякуючы зычлівасьці мясцовага кіраўніцтва, станавіліся аказіяй для сустрэчы з мясцовымі жыхарамі, найперш з дзецьмі. Надвор'е чыніла выпрабаваньні пілігрымам, асабліва ў апошні дзень. Неаднаразова іх «абмывалі» дажджы. Але, нягледзячы ні на што, шчыра маліліся яны: за памёрлых продкаў каля памятнага крыжа на месцы былой рэзідэнцыі ўніяцкіх мітрапалітаў у в.Струньня ля Полацку, за беларускі народ — каля старажытных муроў сьв. Сафіі (на жаль, дазволу памаліцца ў сваёй былой сьвятыні грэка-католікі не атрымалі), на Вячэрні ў невялікай, але ўтульнай царкве сьв. Параскевы Полацкай. Урачыстай нядзельнай Літургіяй, якую служылі Апостальскі візітатар для грэка-католікаў Беларусі айцец архімандрыт Сяргей Гаек, протаігумен айцоў-студытаў Бенядзікт Алексійчук з Украіны, а таксама ераманах айцец Пахом Кавалёў з Полацку, скончылася нашая пілігрымка.

Шчыра кажучы, сумна было разьвітвацца са старымі і новымі сябрамі. Але, як і ў тыя дні, побач са мною крочыць Хрыстос. І на наступны год нас зноў чакаюць сто кіламетраў паміж Віцебскам і Полацкам — гэта нашая невялікая ахвяра Богу дзеля ўшанаваньня і праслаўленьня Полацкіх мучанікаў.

**Андрэй Крот**

Урывак з кнігі Альберта Аблондзі «Ніякіх павучаньняў»

# "Я імкнуся адыгрываць галоўную ролю"

✉✉✉

*Дарагі Альберта!*

*Урэшце наважылася напісаць табе,— гэта пасьля доўгага роздуму над тым, што ты публікуеш, зьвяртаючыся да нас. Паспрабую адказаць на тваё галоўнае пытаньне да нас: «ЧАГО ВЫ ШУКАЕЦЕ?»*

*Вось я — я заўсёды шукаю магчымасьці АДЫГРЫВАЦЬ ГАЛОЎНУЮ РОЛЮ.*

*Я хачу адыгрываць галоўную ролю ў сваім жыцьці, добра ўсьведамляючы, якія з гэтага могуць выплываць небясьпекі і прыкрасьці для майго жыцьця. Поспех, няўдача, перамога, страта і гэтак далей, крок за крокам. Я маю патрэбу ў жыцьцёвай прасторы, каб здолець сьцьвердзіць сябе такою, якою я ёсьць, а не такою, якой мяне жадаюць бачыць дарослыя. Хачу выказваць мае ідэалы, каштоўнасьці, пачуцьці так, як я іх перажываю. Але ўсе яны, толькі таму, што па форме адрозьніваюцца ад тых, што вызнаюць дарослыя, залічваюцца імі ў разрад павярхоўных і вульгарных...*

*Я шукаю ДАВЕРУ.*

*Чакаю даверу ад блізкіх мне людзей, такога даверу, які б выявіўся ў безумоўным прыняцьці ўсёй маёй асобы, цалкам. Я адчуваю, што дарослы сьвет не давярае мне, ды й наогул моладзі, і заўсёды гатовы паставіць пад сумніў усё, чаго я вартая і кім зьяўляюся.*

*Непрыемна ведаць, што побач з табою (у сям'і, школе, на працы) людзі, якія табе не давяраюць, цябе не паважаюць або недаацэньваюць, асабліва, калі ты ў сабе адчуваеш, што магла б апраўдаць іхні давер! Я губляю ўсялякую цікавасьць да супрацоўніцтва, калі адчуваю, што хтосьці мне не давярае. Я скручваюся, як вожык.*

*Натуральна, варта не забывацца на тое, што давер мы атрымліваем ад іншага ня толькі «дарам»,— бывае, яго трэба і заслужыць. Але ў шмат якіх выпадках, у многіх сітуацыях у мяне няма нават магчымасьці паспрабаваць заслужыць гэты давер, бо я апынаюся перад сьцяной забабонаў, якія зачыняюць мне шлях да посьпеху. Вось жа ад гэтае сьцяны самыя слабыя з нас, маладых, вымушаныя адскокваць у каляіну, будуючы свае, часта вельмі жорсткія, формы абароны, такія, як наркотыкі, алкаголь, злачыннасьць, прастытуцыя...*

*Я шукаю САЛІДАРНАСЬЦІ.*

*Чалавек — ня выспа ў акіяне, ён ажыцьцяўляе сябе праз іншых. Целу неабходнае суладдзе ўсіх органаў, каб жыць. У такой самай ступені і мне, як я адчуваю, неабходна падтрымка, супрацоўніцтва аднагодкаў і дарослых. Калі я думаю пра салідарнасьць, то ўяўляю сабе шмат-шмат рук, што вымешваюць цеста. Невядома, на што пойдзе гэтае цеста, але кожны ўкладае сваю сілу, сваю руплівасьць, каб атрымалася добрае месіва, якое станецца нечым большым, важкім, і потым будзе падзелена паміж усімі, хто разьмешваў, і ня толькі імі.*

*У сьвеце дарослых часам няма магчымасьці прыняць удзел у такім вымешваньні, бо ў гэтым сьвеце мае значэньне перш за ўсё ўласная асоба, «свая кашуля, што бліжэй да цела», посьпех аднаго, можа, нават за кошт другога ці многіх іншых...*

*А я, як хрысьціянка, хачу ЗГОДЫ.*

*Унутраны сьвет — той, што дае чалавеку раўнавагу, штодзённы душэўны супакой і дапамагае зразумець глыбіню зьяваў і рэчаў,— дае радасьць, нягледзячы на цяжар, пакуты і неразуменьне, сьвет, у якім ты можаш спазнаць Вялікую Божую міласэрнасьць.*

*Любоў, што паклікала з маёй душы ўсе гэтыя словы — ня меншая за тую, якую мы адчуваем да Айца. Таму мне было б прыемна ведаць, што ты, біскуп, будзеш хаваць гэтыя мае паперкі ў сваім штодзённiку ці ў любімай кнізе, ці нават у нейкай кішэні пад сваёю доўгаю расаю.*

*«Супер» сардэчна*

***Антанэла***

**Дарагая Антанэла!**

Перш за ўсё вялікі дзякуй табе. Мне прыемна, што ты так гаворыш. Словы маіх зваротаў да вас, маладых, ужо сталіся часткаю цябе самой, твайго духу. Як добра ведаць, што адбылася сустрэча паміж намі на духоўным узроўні! І яшчэ я табе ўдзячны за высокую адзнаку маіх намаганьняў, якія прыкладаю для наладжваньня дыялогу з моладдзю. Як цяжка даказваць, што такі неабходны ёсьць гэты дыялог — паміж моладдзю і Царквою, паміж дарослымі і моладдзю, спаміж саміх маладых. Я думаю, што моладзь мае ў сабе шмат багацьця. Мяркую, мяне наўрад ці можна залічыць да тых дарослых, якія, як ты кажаш, не давяраюць моладзі. Мне здаецца, што вы, маладыя, зьберагаеце, можа, нават падсвядома, у сваіх уяўленьнях пра жыцьцё нешта такое, што датычыць будучыні кожнага з нас і цэлага сьвету. Таму, толькі зразумеўшы вас, мы, дарослыя, здолеем распазнаць і тыя мэты, да якіх усіх нас кліча Госпад.

Я не магу пункт за пунктам аналізаваць тваё пісьмо, але,безумоўна, падзяляю вялікія патрэбы тваёй асобы «адыгрываць галоўныя ролі» і «шукаць даверу».

Ведаеш, ты аб'яўляеш прынцыпы, якія я падзяляю. Але потым ты палохаешся, бо сутыкаешся з цяжкасьцямі. Таму я б хацеў распачаць з такіх словаў: усё добрае дастаецца цяжкаю працаю душы і рук. Калі б самыя цудоўныя рэчы былі б даступныя лёгка, яны б, можа, аказаліся павярхоўнымі і пустымі. Па сутнасьці, якія горы пустых рэчаў накідваем у сваім жыцьці ўсе мы, маладыя і ня вельмі,— таму, што хочам атрымаць іх без усялякіх намаганьняў!

Калі ж ты сапраўды жадаеш дасягнуць чагосьці вялікага і цудоўнага, для сябе і для іншых, каб узрасьці для сябе і для тых, каго ты сустрэнеш, тады прымі гэты шлях, поўны цяжкасьцяў. Ты ня зможаш займець даверу іншых і да іншых, калі ня будзеш гатовая ператрываць неразуменьне. Ты ня зможаш займець супакою, калі не пагодзішся ахвяраваць сваім «майном»,— няўдалымі спробамі,— каб пачаць усё спачатку, пераадолеўшы свой гонар. Ты ня зможаш адыгрываць галоўную ролю, калі перш-наперш не паспрабуеш унутрана ўзгадаваць сябе ў сьвятле Слова Божага, якое будзе ключом для разуменьня твайго асабістага пакліка_ньня. Калі ж ты падвядзеш трывалы фундамант пад свой жыцьцёвы выбар — праз Слова Божае і малітву, праз параўнаньне сваёй пазіцыі з пазіцыяй сяброў, сям'і, або грамадства — тады ты зможаш быць на першых ролях, нават калі пра гэта ніхто і не здагадаецца. А галоўнае, што ты зможаш быць гаспадыняй уласнага жыцьця, лёсу і лідарам для многіх іншых, якіх ты, натуральна, не павінна рабіць статыстамі ў тваёй п'есе. Наадварот, табе прыйдзецца рабіць з такіх самых «галоўных», як ты сама. Гэта добра ведаць, што ўсе мы ў жыцьці пакліканы, каб граць першую скрыпку, але разам з тым мы пакліканы, каб дапамагаць усім, каго сустракаем, таксама быць на першых ролях.

Мне вельмі спадабалася тваё параўнаньне з вымешваньнем цеста, якое месяць многія, ня ведаючы, каму дастанецца выпечка. Важна стварыць з сябе асобу, якая сталася б, паводле выразу папы Яна Паўла II, «крыніцаю, з якой кожны можа напіцца». Мы ня ведаем, кім будзем; але несумненна, што мноства прагных мы знойдзем заўсёды. Можа, спасярод тваіх дзяцей, можа, у тваёй грамадзе, а можа, і зусім нявядома і нечакана дзе...

І яшчэ я жадаю табе сапраўды здабыць той сьвет, пра які ты гаворыш, і навучыцца... лятаць. Мне б хацелася, каб ты ўмела прымаць каштоўнасьці Царквы, што стануцца тваімі крыламі, якія будуць узносіць цябе ўвышыню. І няхай табе ніколі не давядзецца (у Царкве — праз неразуменьне або ў розных колах — праз нядобразычлівасьць) апранацца ў панцыр, на падабенства танку. Бо, па сутнасьці, і ў танку хаваецца чалавек, у якім заключаны цэлы сусьвет. А калі ўсе пад панцырам, дык ніхто і ня можа пабачыць і спазнаць сусьвет іншага... Толькі застаецца сустрэцца ў бойцы.

Нам жа — Царкве — патрэбныя асобы, якія б адкрываліся адна на адну і пры гэтым бачылі ў кожным чалавеку адбітак Айца. І зусім не браніраваныя танкі, што толькі і сутыкаюцца ў ваяўнічай адасобленасьці, якая выліваецца ў хамства і грубіянства.

Дык будзь заўсёды такою асобаю, якая больш падобная на вобраз Божы, асобаю, якая ўмее распазнаваць Бога ў іншым за любымі зьнешнімі рысамі. Вось колькі маю для цябе пажаданьняў.

З такой самай «супер»-сардэчнасьцю

**† Біскуп Альберта**



# Першыя прадстаўнікі нашае Царквы ў Рыме

*Сьвяткуючы Юбілей 2000 году, нашая Беларуская Грэка-Каталіцкая Царква імкнецца падкрэсьліць сваю традыцыйную сувязь з Апостальскай Сталіцай. Таму дарэчы будзе пазнаёміць нашых вернікаў з гісторыяй храму Жыровіцкай Божай Маці і сьвятых мучанікаў Сяргея і Вакха ў Рыме. Гэты храм, дзе й сёньня знаходзіцца цудатворны абраз Маці Божай Жыровіцкай, слынны ў Вечным Горадзе сваімі ласкамі і ацаленьнямі, стаўся на некалькі стагоддзяў маленькім куточкам нашай Бацькаўшчыны, прадстаўніцтвам нашай Уніяцкай Царквы ў горадзе Апостала Пятра. (Сёньня гэтым храмам карыстаюцца ўкраінскія грэка-каталікі).*

## Аднаўленьне царквы сьвятых Сяргея й Вакха

Айцец І.Кульчынскі падае, што заступнік вікарыя Рыму ў дзень 15 чэрвеня 1639 г. увёў айца Піліпа Баравіка й ягонага сябра айца Язафата Ісаковіча да царквы сьвятых Сяргея й Вакха. Айцец Баравік прыйшоў да Рыму як сьвятар, маючы 27 гадоў, і студыяваў у грэцкай калегіі з 2 траўня 1633 да 8 верасьня 1638 г. У той час ён быў пракуратарам.

Гэтыя сьвятары знайшлі царкву занядбанай, бо прыбыткі, дамы й сховы перадалі перад гэтым царкве-базіліцы сьвятой Марыі Маджорэ, а царкоўнае аздабленьне забралі айцы францішканы да новае парафіі, хоць гэта не адпавядала намерам ахвярадаўцаў, якія далі ахвяры на царкву, а не на парафію. Праз некалькі месяцаў прыехаў у Рым мітрапаліт Рафаіл Корсак і прывёз з сабой усе шаты, літургічныя кніжкі й сам правіў архірэйскія сьвятыя Літургіі ды пачаў аднаўленьне царквы.

Пасьля сьмерці мітрапаліта Корсака царквой апекаваўся кардынал Антоні Барбэрыні. Ён нарадзіўся ў Фларэнцыі ў 1569 годзе, а ў 1592 уступіў у закон капуцынаў. Калі ягоны брат Мафэй у 1623 г. стаў Папам — Урбанам VIII, ён быў тады старэйшым аднаго манастыра каля Фларэнцыі. Папа паклікаў яго да Рыму. Ён прыйшоў пешкі, хоць без энтузіязму, і 7 кастрычніка 1624 г. стаў кардыналам сьвятога Анупрэя. У 1625-1629 быў біскупам Сэнігаліі, а потым, на заклік Папы, зноў прыйшоў да Рыму й зрокся сваёй дыяцэзіі. У Рымскай Курыі ён быў чальцом розных Кангрэгацыяў, Правікарыем, прэфэктам Пэнітэнцыярыі й бібліятэкарам. Быў вялікім апекуном манастыроў і аднаўляльнікам ды заснавальнікам цэркваў. Дзякуючы ягоным намаганьням і фундацыі, быў закончаны галоўны алтар, адноўлена звонку нашая царква, столь ды павялічаны галоўны ўваход. Ён купіў у францішканаў суседні дом і перабудаваў яго, павялічыў пакоі для манахаў. Даў значныя грошы на бэатыфікацыйны працэс сьвятога Язафата, а калі гэты працэс пасьпяхова закончыўся, дык наладзіў першае вялікае сьвята Вялебнаму ў царкве Ісуса (езуіцкая царква, называная «Эль Джэзу»).

Кардынал А.Барбэрыні памёр у 1646 г. і пахаваны ў царкве капуцынаў, а на ягонай труне ёсьць звычайная эпітафія: «Тут ляжыць пыл, попел і нішто». Перад сьмерцю легат запісаў на царкву сьвятых Сяргея й Вакха 100 скудаў у год і аднаразова 200 скудаў на абнову царквы. З таго часу ёсьць надпіс над уваходам у царкву: «Ф.Ант.Барбэрыні, кард. сьв. Анупрэя ў гонар сьв. Сяргея й Вакха».

Царква ад пачатку была большая, піша айцец Кульчынскі, мела тры нефы, гэта відаць у крыпце, але невядома калі яе зьменшылі. З паведамленьняў візітацыяў у 1656 і 1661 гг. вядома, што царква была прыгожа ўбрана. Нейкія дабудовы (даху й пакояў) зроблены ў 1662 г. і ў 1673 (даху й вокнаў). У 1691 г. месца вакол царквы й дома абкладзена камянямі, а ў 1707 годзе дабудавана частка дома на тры паверхі. Скардзіўся на гэта айцец Кульчынскі, што ягоныя папярэднікі за трыццаць гадоў, слухаючы архітэктараў і муляроў, на пазычаныя грошы разбудавалі дом і залезьлі ў яшчэ большыя даўгі, бо ўсе прыбыткі йшлі на выплату працэнтаў. Значны рамонт галоўнага муру давершаны ў 1729 годзе. Працай кіраваў Філіп Барыджоні, ён і зрабіў новы праект галоўнага прастолу. Царкву аднаўлялі й у 1741 годзе пад наглядам архітэктара Францішка Фэрары, а выдаткі пакрылі шанавальнікі абраза Жыровіцкай Божай Маці. Цяперашні зьнешні выгляд царквы зьбярог тую традыцыйную архітэктуру, якую надаў ёй архітэктар Эторэ Банолі ў 1896 г, гэта значыць год перад тым, калі Папа Леў XIII стварыў там «Русінскую Калегію» (яе стварэньне даручаў яшчэ ў 1641 годзе папа Ўрбан VIII).

Звонку над уваходам у інтэрнат бачны традыцыйны герб Галіцкай дзяржавы з XIV ст. — леў, які зьвернуты ў правы бок і стаіць на задніх лапах. Калі ён зьмешчаны на гэтым месцы — невядома.

## Стан дому й царквы сьвятых Сяргея й Вакха ў 1650-60-ых гг.

З паведамленьняў візітацыі згаданай царквы, якую правёў 19 жніўня 1656 г. айцец Віргілі Спада, выходзіць, што царква была прыгожа ўбрана й мела тры алтары, з якіх адзін, найбольшы, прысьвечаны сьвятому Міколу, адзін Усячыстай Дзеве Марыі, а яшчэ адзін вялебнаму Язафату. У царкве быў на халсьціне абраз Усячыстай Дзевы Марыі, і ён вісеў на сьцяне недалёка ад дзьвярэй. Былі перад тым у царкве залатая чаша й грэцкія шаты, падарунак мітрапаліта Корсака, вартасьцю 700 эскудаў. У 1656 г. не было ні чашаў, ні сьціхароў, толькі чатыры лацінскія й чатыры грэцкія фелоні. Ілітонаў[1], ручнікоў і т.п. было дастаткова. Падчас сьвятой Літургіі ўжывалі чашу, якую прынёс з грэцкай калегіі адзін з навучэнцаў.

У доме было няшмат рэчаў. Напрыклад, бібліятэку, якая была вартая больш за 300 эскудаў, прадалі задарма, і толькі засталося каля 80 кніжак малой вартасьці. Будынак быў здвоены, адзін новы, што складаўся з 7 пакояў, а другі стары й няўтульны, з 5 пакоямі.

Пра досьлед тае візітацыі напісала Кангрэгацыя да Полацкага архібіскупа Гаўрылы Каляды ў лісьце ад 1 кастрычніка 1658 г., адзначаючы, што стан царквы й калегіі сьвятых Сяргея й Вакха пагоршыўся. Прычына ліха была ў тым, пісала Кангрэгацыя, што наглядчыкамі былі недасьведчаныя студэнты-тэолагі з Грэцкае калегіі, што пры царкве святых Сяргея й Вакха жылі звычайна толькі два манахі, якія павінны былі сьведчыць прыкладам манаскага жыцьця. У сувязі з гэтым трэба абіраць старэйшымі дасьведчаных, паважаных, узорных і адданых сваёй нацыі асобаў, каб маглі мець вялікія посьпехі, прыхільнасьць і добрую славу. У той самы дзень (1 кастрычніка 1658 г.) Кангрэгацыя напісала й да Холмскага біскупа Якуба Сушы ды прыклала выпіс вышэйзгаданага ліста.

Годам пазьней (6 траўня 1659 г.) Кангрэгацыя напісала й да Апостальскага Нунцыя ў Польшчы: «Тут, у Рыме, як Вам, можа, вядома, ёсьць дом для Русінаў з царквой, прысьвечанай сьвятым Сяргею й Вакху. Іх аддалі гэтай Нацыі з тытулам калегіі». Звычайна там жыве два няўмелыя маладзёны, пісала Кангрэгацыя, і ў мінулым былі праз гэтае пагаршэньні. Хоць Кангрэгацыя ня мела нагляду за домам і царквой, толькі выплочвала на іх штогод 100 эскудаў з фонду кардынала Барбэрыні, апошні раз забясьпечыла іхні побыт. Тут ёсьць два магчымыя рашэньні: здаць дом у арэнду, а прыбыткамі й 100 эскудамі кардынала Барбэрыні ўтрымліваць яшчэ 3-х навучэнцаў Грэцкай калегіі, акрамя чатырох, што маюць там стыпендыю, пакуль прыбыткі царквы й дому сьвятых Сяргея й Вакха ня будуць дастатковымі на ўтрыманьне ўласнае калегіі. Тыя самыя студэнты ў сьвята хадзілі б з Грэцкае калегіі да царквы сьвятых Сяргея й Вакха на службы, каб царква не занялала.

Другое рашэнне маецца такое, як дадзена ў Дэкрэце, каб даручыць інтэрнат гротафэрацкім базыльянам. Аднак мітрапаліт Каляда ня быў рады ні першаму, ні другому рашэньню. Першаму — таму, што ня будуць мець пракуратара. Урэшце прыбыткі ня будуць такімі вялікімі, каб можна было ўтрымліваць трох новых навучэнцаў. Другому — з гротафэрацкімі базыльянамі маглі б узьнікнуць цяжкасьці ў супольным жыцьці. Замест гэтага мітрапаліт абяцаў прыслаць узорных асобаў, каб не было незадавальненьняў.

Біскуп Я.Суша 3 лістапада 1663 г., ад імя іншых Уладыкаў, даслаў ліст да Кангрэгацыі, у якім напісана: «Уладыкі біскупы надта жадаюць, каб Калегія сьвятых Сяргея й Вакха ў Рыме, якую стварыў Папа Урбан VIII і Антоні Барбэрыні, кардынал сьвятога Анупрэя, была захаваная для сьвятой Уніі, бо добра ведама, як карысна гэтае месца ўсёй Уніі й якое зьдзіўленьне выклікае яно сярод незьяднаных. Хоць нашыя студэнты ўчынілі там ліха, дык няхай Апостальскі Пасад, як маці, усё забудзе. У іншым выпадку, калі б гэтае месца ў нас забралі, дык ня толькі да нашых хатніх бедаў прыйшло б яшчэ адно вялікае ліха, але нашыя ворагі кпілі б таксама, маўляў, нас выгналі з Рыму».

Праз пяць гадоў, 18 траўня 1661 г., зноў адбылася візітацыя і быў дадзены вопіс царквы й дому сьвятых Сяргея й Вакха. Царква мае адны вялікія дзьверы, што выходзяць на вуліцу, іх адчыняюць падчас Службаў Божых і двух сьвятаў: сьвятых Сяргея й Вакха ды вялебнага пакутніка Язафата. Тады ўрачыста сьпяваюць па-славянску сьвятую Літургію й Вячэрню. Ёсьць другі, меншы ўваход, праз які ўваходзяць з жылой часткі, праз закрыстыю, у сьвяцілішча. Царква невялікая, але прыгожая, столь новая з прыгожым росьпісам і абраз сьвятых Сяргея й Вакха, намаляваны добрай рукой. Ёсьць тры алтары: вялікі — Найсьвяцейшых Тайнаў, другі — Усячыстай Дзевы Марыі й сьвятых Сяргея й Вакха, а трэці — вялебнага пакутніка Язафата.

Вялікі алтар аддзелены ад рэшты царквы іканастасам, на прастоле ёсьць драўляны залачоны ківот, уківоце ёсьць залачоная з срэбра дарасхоўніца.

Акрамя гэтага, былі два падсьвечнікі з дрэва, пакрытыя срэбрам, амаль новыя; масянжовы крыж; два залачоныя з дрэва, анёлы. Прастол накрыты трыма абрусамі. Надківотам нібы зьвісаў маленькі сьцяжок, а насупраць на муры — абраз біскупа сьвятога Міколы на каленях. На мурах, побач з гэтым алтаром, намаляваныя грэцкія сьвятыя, калі адпраўляюць архірэйскую сьвятую Літургію. Іканастас выглядае новым, пасярэдзіне Хрыстос у славе са сьцягам у руках, ніжэй дванаццаць апосталаў, з бакоў царскіх брамаў Хрыстос і Ўсячыстая Дзева Марыя, на дыяканскіх дзьвярах ёсьць анёл Рафаіл і анёл Ахоўнік, што вядзе хлопца. Праз драўляныя залачоныя царскія брамы бачны прастол і ківот.

Другі алтар прысьвечаны сьвятым Сяргею й Вакху, чыё імя носіць царква. Яны намаляваныя на дрэве, сёе-тое прымітыўна. Мітрапаліт Корсак прывёз да Рыму старажытны цудатворны абраз Усячыстай Дзевы Марыі з дзіцяткам на руках, намаляваны «а ля Рутэна» невядома на якім матэрыяле, аздоблены каштоўнымі камянямі, і таму алтар называецца таксама алтаром Божае Маці.

Кажуць, што гэты абраз перад тым прывёз з Масквы ў Вільню маскоўскі патрыярх Ігнат. Абраз зьмешчаны ў верхняй частцы алтара так, што выглядае, быццам сьвятыя Сяргей і Вакх яго падтрымліваюць. Вакол ёсьць розныя аздобы: анёлы, якія падтрымліваюць карону і т.п.

Гэты алтар выглядае прыгожа разам з трэцім, што стаіць насупраць. Яны зробленыя нядаўна з дарагога мармуру, размаляваныя пілястры, над імі дзьве драўляныя калоны, унізе іх падмуркі, а ўверсе капітэлі. Усё тое залачонае, на самым версе ёсьць рамы й дзьве аркі, над якімі ёсьць вазы з каштоўнага мармуру адценьня чырвонае фарбы. Пасярэдзіне маецца крыж, пад крыжам ёсьць прыгожы абраз трох анёлаў за сталом, можа, тых, што былі ў Лота. Каля алтара Вялебнага Язафата ёсьць Хрыстос і два вучні з Эмаўса, за сталом. Трэці алтар, прысьвечаны вялебнаму Язафату, прыгожы, як і другі. Ягоны абраз новы, на халсьціне.



*Цудатворны абраз Маці Божай Жыровіцкай у царкве сьв. Сяргея й Вакха ў Рыме.*

На сьценах царквы вісела чатыры абразы: два вялікія на халсьце бяз рамаў, адзін блізка да іканастасу — сьвяты Ян Залатавусны з анёламі, намаляваны як патрыярх, насупраць, падобна, сьвяты Васіль. Два меншыя віселі ў глыбіні царквы, за алтарамі: адзін — гэта Ўцелаўленьне, на халсьце з белай драўлянай рамай, другі, крыху большы, з боку алтара вялебнага Язафата, паказваў Маці Божую з Монтэ Сэрата.

Пры дзьвярах былі дзьве драўляныя спавядальніцы й 4 лаўкі. У закрыстыі была чаша з дадаткамі (як у лацiньнікаў) і срэбная зорка «а ля грэка». Былі ілітоны, а ў ілітоне губка, якой высыпалі часьцінкі з дыскасу ў чашу. У адной шафе была мітра, якую носяць русінскія архібіскупы, хоць старая, але прыгожая, з чырвонага сукна, якую накрыж падзялялі залататканыя стужкі; аздобленая штучнымі пярлінамі й дыяментамі ды каштоўнымі камянямі. На чатырох баках мітры вышыты 4 грэцкія настаўнікі Царквы. Над той шафай была яшчэ адна з абразамі двух грэцкіх сьвятых біскупаў на дзьвярах і вялебны пакутнік Язафат, у шафе быў толькі абраз сьвятога Гераніма.

Мелася адна каплічка з двума рэліквіярамі[2]. Акрамя таго — вялікі й прыгожы рэліквіяр з мошчамі сьвятых Сяргея й Вакха, а яшчэ адзін рэліквіяр меншы, з мошчамі вялебнага Язафата. Было 5 фелонаў «а ля грэка а рутэна»: зялёная, чырвоная, фіялетавая, залататканая, чорная. З лацінскіх шатаў была толькі адна фіялетавая фелонь.

Кнігі былі такія: Евангельле (па-славянску), абшытае чырвоным сукном, Службоўнік, абшыты скурай, з даўнімі малюнкамі, Трыёдзь, Параклiс, Актоіх, Ірмалагіён, Трэфалагіён, Трэбнік, рукапісны Службоўнік царкоўнаславянскі і адзін рымскі Імшал.

У закрыстыі вісеў абраз вялебнага Пакутніка Язафата на халсьце, абраз Маці Божай з Дзіцяткам і сьвятым Янам, а над ім Збаўца.

*1) Ілітон - хустка чырвонага колеру, якая кладзецца на прастол пад антымінс і служыць абгорткаю для апошняга.*

*2) Рэлікіяр - гэта скрынка, у якой захоўваюцца часткі сьвятых мошчаў.*

*(З працы Івана Хоми «Нарис історії храму Жировицької Богоматері і св. мучеників Сергія і Вакха в Римі»)*

***Пераклад з украінскае мовы Уладзіміра Губскага (Полацак)***

# Адраджэньне Уніі ў Бабровічах

Згодна з Рыжскім трактатам 1920 году Заходняя Беларусь апынулася ў складзе Польскае дзяржавы. Такім чынам зьявілася магчымасьць адраджэньня Ўніяцкае Царквы на гэтых тэрыторыях. Хутка пачалі ўзьнікаць уніяцкія пляцоўкі. На тэрыторыі сучаснага Івацэвіцкага раёну іх было дзьве: у Бабровічах і ў Быцені.

Вясною 1925 году жыхары Бабровічаў з уласнае ініцыятывы зьвярнуліся да рымакаталіцкага біскупа ў Пінску з просьбаю прыслаць ім уніяцкага сьвятара. Восеньню таго ж году, для азнаямленьня з сітуацыяй на месцы, у Бабровічы прыехаў француз айцец Васіль Буржуа, тагачасны зьверхнік манаскага дому айцоў езуітаў усходняга абраду ў Альбярціне — прадмесьці Слоніма. Гэты сьвятар адправіў набажэнства, прамовіў казаньне і так усім спадабаўся, што жыхары вёскі прасілі яго застацца настала. Айцец Буржуа адказаў, што сам застацца ня можа, але паабяцаў паруціцца, каб у Бабровічах зьявіўся свой уніяцкі парах.

Аднак біскуп Пінскі Зыгмунт Лазінскі на той час яшчэ ня меў сьвятара, якога мог бы паслаць у Бабровічы, і справа з прызначэньнем параха зацягнулася. Айцец Васіль Буржуа прыязджаў да бабровіцкіх вернікаў яшчэ раз — 3 студзеня 1926 году, ахрысьціў 8 дзяцей і адслужыў сьв. Літургію. Праз некалькі дзён у Бабровічы прыехаў сьвятар Пётр Шчасновіч, які перайшоў у каталіцызм з праваслаўя і быў прызначаны сюды парахам. Пазнаёміўшыся з мясцовымі вернікамі, ён выехаў на некалькі дзён па свае рэчы.

Надышло сьвята Багазьяўленьня 1926 году. Неспадзявана ў вёску прыехаў протаярэй Шыманоўскі, праваслаўны епархіяльны місіянер. Жыхары пусьцілі яго ў царкву. Ён адслужыў літургію, правёў крыжовы ход на Бабровіцкае возера, дзе пасьвяціў ваду. Сьвятар прасіў, угаворваў, маліў, нават плакаў, каб жыхары вёскі засталіся вернымі праваслаўю, але з гэтага нічога не атрымалася. Праз некалькі дзён вярнуўся а. Шчасновіч і пачаў выконваць абавязкі параха.

Дзень 25 студзеня 1926 году ў часопісе *Oriens*, які выдавала ўсходняя місія айцоў-езуітаў у Польшчы, узгадваецца як першы дзень існавання ўніяцкай парафіі ў Бабровічах. Менавіта ў гэты дзень быў зроблены першы запіс у кнізе метрык — аб хросьце чатырох дзяцей. Парафія пачала сваё паўсядзённае жыцьцё. Суседнія праваслаўныя сьвятары глядзелі на яе з непакоем: усё часьцей іх парафіяне кіраваліся да Бабровічаў. Напрыклад, каб атрымаць шлюб ці хрост, да ўніяцкага сьвятара прыходзілі праваслаўныя з суседніх Выганашчаў і Тэлеханаў. У пэўны момант вакол Бабровічаў можна было б стварыць яшчэ некалькі душпастырскіх пляцовак, але з-за недахопу сьвятароў гэтая мажлівасьць не была скарыстаная. У 1931 годзе да біскупа Мікалая Чарнецкага, Апостальскага візітатара каталікоў усходняга абраду на Валыні і Палесьсі, які ў той час прыехаў у Бабровічы, зьвярнулася дэлегацыя жыхароў вёскі Краі. Яны прасілі прызначыць для іх уніяцкага сьвятара. Біскуп змог толькі даць распараджэньне бабровіцкаму параху часамі даязджаць да гэтай вёскі. У гэтым жа годзе праваслаўныя з Тэлеханаў зьбіралі подпісы з просьбаю таксама прызначыць сьвятара-уніята, бо празьмерныя паборы праваслаўнага духавенства моцна абуралі мясцовых вернікаў.

Айцец Пётр Шчасновіч нядоўга працаваў у Бабровічах. У хуткім часе ён быў прызначаны на іншую пляцоўку. Ужо ў ліпені 1926 году яго зьмяніў айцец Зянон Шымкевіч, які, аднак, хутка папрасіў біскупа аб звальненьні. Нарэшце, у верасьні 1926 году кіраўніцтва парафіяй прыняў айцец Баляслаў Пачопка, нядаўна высьвячаны на сьвятара. У тагачаснай Заходняй Беларусі ён быў добра вядомы як адзін з першых і актыўных арганізатараў беларускага школьніцтва.

Такім чынам, у Бабровічах пачаў сваю душпастырскую працу а. Баляслаў Пачопка. Варта адзначыць, што гэты сьвятар меў пяцёра дзяцей школьнага ўзросту і таму мусіў большую частку тыдня працаваць як звычайны гаспадар у полі ці на сенажаці. Аднак, а. Баляслаў рэгулярна ў нядзелі і сьвяты адпраўляў набажэнствы і гаварыў казаньні. Пра тое, як служыў бабровіцкі парах, лепей працытаваць часопіс *Oriens*: «Здараецца часамі бываць на набажэнствах, дзе чалавек чуе сябе як бы на тэатральным відовішчы. Асоба сьвятара робіць уражаньне артыста, які больш-менш удала выконвае сваю ролю, абы толькі адбыць абавязак, бо з гэтага жыве. Вось жа чагосьці падобнага не адчуваеш у Бабровічах. Наадварот, зьяўляецца перакананьне, што сьвятар, які адпраўляе набажэнствы, робіць гэта з глыбокай вераю, шчыра, набожна. Я чуў гэта ад многіх асобаў і сам маю такое самае перакананьне».

Ня менш важнай рысай была бескарысьлівасць айца Баляслава Пачопкі ў выкананьні сьвятарскіх паслугаў. Ахвяры за набажэнствы былі сімвалічныя (1-5 злотых). Часта шлюб і хрост людзі атрымлівалі задарма ці за абяцаньне «калі што-небудзь параблю». Усе вернікі хвалілі свайго параха, бо ён такі добры, якога ніколі не было і нея будзе.

На тэрыторыі бабровіцкай парафіі дзейнічала суполка каталіцкай дабрачыннай арганізацыі *Caritas*. Яе заснавальнікамі былі адно члены сям'і параха, а мясцовыя жыхары больш карысталіся з гэтай дабрачыннасьці. Гэта і ня дзіва, бо былі сем'і, дзе не было солі да самай простай стравы, дзе ня елі хлеба з восені аж да жніва, а адзінаю стравою была бульба з дробнаю рыбаю. Некаторыя кабеты мелі толькі адну спадніцу і каптан на штодзень і на сьвяты, адзеньне ж іхніх дзяцей складалася з адзінай кашулі. Былі ў вёсцы асобы, якія з ног да галавы былі апранутыя ў рэчы «бацюшкі» ці «матушкі». Некаторыя атрымлівалі ў сьвятара малако для дзяцей, лекі.

Дзьве вёскі бабровіцкай парафіі — Вяда і Тупічыцы — знаходзіліся за возерам. Там жылі пераважна старыя і хворыя людзі, для якіх дабрацца да Бабровічаў было амаль што немагчыма. Была там і школа, дзе настаўнікі зьмяняліся штогод. Дабрацца туды можна было толькі на лодцы ці тады, калі возера пакрывалася тоўстым лёдам. І вось а. Баляслаў, пакуль возера не замярзала, веславаў, змагаючыся з хвалямі, да школы, каб даць дзецям рэлігійную асьвету. А на Вялікдзень 1934 году ў гэтай школе былі арганізаваныя духоўныя рэкалекцыі. Вельмі зручна гэта было для школьнай дзятвы, а таксама для старых і хворых. Рэкалекцыі скончыліся Сьвятой Споведдзю і Боскай Літургіяй, падчас якой прычасьце змаглі прыняць нават тыя асобы, якія да Сьвятых Тайнаў апошні раз прыступалі перад І Сусьветнай вайной!

Гаворачы пра дзейнасьць а. Баляслава Пачопкі, варта таксама дадаць, што, дзякуючы ягоным стараньням, у 1932 годзе ў Бабровічах была пабудаваная новая царква ў гонар сьв. Параскевы Пятніцы і Яна Хрысьціцеля. Старая царква да таго часу пагражала ўжо абвалам. У 1936 годзе бабровіцкая парафія налічвала 1100 вернікаў. Да таго часу было ахрышчана 935 дзяцей, удзелена 226 шлюбаў. Ахоплівала парафія 6 населеных пунктаў у ваколіцах Бабровічаў, а некаторыя вернікі жылі таксама на тэрыторыі суседніх праваслаўных парафіяў.

**Андрэй Крот**
*г.Івацэвічы*

*P.S. Тых, хто мае старыя фотаздымкі ці хацеў бы распавесьці пра Бабровіцкую парафію і яе параха айца Баляслава Пачопку,— просім зьвяртацца на адрас: г.Івацэвічы, вул.Дольная, 25 або ў рэдакцыю газеты «Царква».*

Янка КАРПОВІЧ

## Малітва

З глыбінь Беларусі,
ад самых вытокаў,
Наш голас малебны нясецца
Да самага неба, да нашага Бога,—
Сьвятой ён малітвай завецца.
З мальбою кранаемся духу Ісуса.
Гасподзь, уратуй Беларусь.
Ад злое навалы,
пякельнага гнуса,—
Наш Божа, ўратуй Беларусь!
Народ наш спадзейку
вялікую мае
Спакон на Цябе, наш Гасподзь.
Бо хто з найсьвяцейшых
пра нас так падбае,
Як Ты, наш Гасподзь!

***

Болем пакутуе сэрца.
Цемра ахутала край.
Бездар да ўлады рвецца,
Нам прапануючы рай.

Беды ідуць вераніцай.
Зьнічкай надзея мільгне.
Цемра наваліцца жрыцай,
Шчасьце ізноў праміне.

## Мая Беларусь

Ты мая белая, белая, белая,
Сэрцам любімая, замілаваная.
Самая шчырая, самая верная,
Родная, мілая і закаханая.
Ты і крынічная, ты і азёрная,
Ты і лясная, і журавінная,
Хлебам пахучая, песьнямі звонкая,
І салаўіная, і жураўліная.

З чым параўнаць цябе,
родная, мілая,
Дзе яшчэ знойдзеш
такія мясьціны?
Ты мая белая, сіняя-сіняя,
Спадчына слаўная,
край мой адзіны.

г. Слонім

## Беларускія грэка-каталіцкія асяродкі

| *Назва парафіі* | *Горад* | *Сьвятар* | *Набажэнствы і рэлігійныя спатканьні* | *Душпастырскі цэнтр ці тэлефон для кантактаў* |
|---|---|---|---|---|
| Сьвятой Параскевы Пятніцы | в.Бабровічы Івацэвіцкага р-ну | а. Ігар Кандрацьеў | набажэнствы адбываюцца па папярэдняй абвестцы сьвятара | сп. Аляксандр Мялік<br>в.Бабровічы |
| Сьвятых роўнапостальных Кірылы і Мятода | Баранавічы | а. Ігар Кандрацьеў | **супольная малітва ці сьв. Літургія:** серада, пятніца, нядзеля — 18.00 | вул.Міцкевіча,65<br>тэл. 416-461 |
| Сьвятых братоў апосталаў Пятра і Андрэя | Берасьце | а. Ігар Кандрацьеў | **сьв. Літургія:** нядзеля — 18.00, будні дні — 19.00<br>**нядзеля, 16.00:** сьпеўны гурток<br>**нядзеля, 17.00:** катэхеза для дзяцей<br>**серада, 20.00:** марыйныя набажэнствы<br>**чацьвер, 19.00:** біблійны гурток<br>**пятніца, 19.00:** Абедніца<br>**субота, 19.00:** Акафіст Падляшскім мучанікам | e-mail:<br>bgkc_carkva@mail.ru<br>вул.Дворнікава, 63<br>тэл. 24-74-82<br>а. Ігар Кандрацьеў |
| Уваскрасеньня Хрыстова | Віцебск | а. Пахом Кавалёў | **сьв. Літургія:** нядзеля, 17.00 | вул.2-я Войкава, 6а<br>тэл. 36-18-33 |
| Трох сьвяціцеляў | Гомель | а. Пахом Кавалёў, а. Казімір Ляховіч | **малітоўныя спатканьні:** нядзеля, 12.00<br>**сьв. Літургія:** па папярэдняй абвестцы | тэл. 55-79-03<br>сп. Андрэй Саладоўнікаў |
| Зьяўленьня Маці Божай у Фаціме | Горадня | а. Дэкан Віктар Данілаў | **сьв. Літургія:** нядзеля — 10.00, падчас сьвятаў у будня дні — 18.00<br>**багаслоўскія канферэнцыі:** аўторак, 18.00 | вул.Гараднічанская, д. 32 а<br>тэл. 33-24-50<br>а. Віктар Данілаў |
| Жыровіцкай іконы Маці Божай | Івацэвічы | а. Ігар Кандрацьеў | **сьв. Літургія:** субота, 19.00<br>**супольная малітва:** нядзеля, 10.00 | вул.Чапаева, 26-1<br>тэл.2-25-11<br>сп. Вячаслаў Гарчакоў |
| Сьвятога мучаніка Язафата | Ліда | а. Андрэй Абламейка | **сьв. Літургія:** субота, 14.00<br>**катэхеза:** серада, 16.00 | вул. Каліноўскага, д. 16, тэл. 45-000 |
| Бялыніцкай іконы Маці Божай | Магілёў | а. Пахом Кавалёў, а. Казімір Ляховіч | **сьв. Літургія ці супольная малітва:** нядзеля, 14.30<br>**катэхеза для дзяцей:** расклад удакладняецца | капліца на могілках па вул. Лазарэнкі (да 1.10.2000)<br>тэл.32-42-74<br>сп. Віктар Лосеў |
| Хрыста Чалавекалюбцы | Маладэчна | а. Андрэй Абламейка | **сьв. Літургія:** нядзеля, 18.00<br>**супольная вячэрняя малітва:** будні дні, 18.00<br>**катэхеза:** пятніца, 18.00<br>**катэхетычныя спатканьні для моладзі:** нядзеля, 10.00 | вул.Віленская, 44<br>тэл.75-0-74 |
| Маці Божай Нястомнай Дапамогі | Менск | а. Казімір Ляховіч | у сувязі з часовай адсутнасьцю свайго памяшканьня час і месца набажэнстваў і малітоўных спатканьняў паведамляюцца асобна | тэл. 251-06-20, 220-47-89<br>а. Казімір Ляховіч |
| Сьвятога Язэпа | Менск | а. Андрэй Абламейка | у сувязі з часовай адсутнасьцю свайго памяшканьня час і месца набажэнстваў і малітоўных спатканьняў паведамляюцца асобна | тэл. 244-76-22<br>сп.Анатоль Сёмуха;<br>тэл. 213-60-87<br>сп. Яўген Андросік |
| Сьвятога Кірылы Тураўскага | Пінск | а. Ігар Кандрацьеў | **супольная малітва ці сьв. Літургія:** пятніца, 19.00 | тэл. 36-36-65<br>сп. Лявон Вабішчэвіч |
| Сьвятога мучаніка Язафата | Полацак | а. Пахом Кавалёў | **сьв. Літургія:** нядзеля, 9.30<br>**евангельскія чытаньні:** серада, 19.00<br>**Акафіст:** нядзеля, 17.00 | вул.Навасёлаў, 70<br>тэл. 44-509<br>сп. Мікола Шарах |
| Манастыр сьвятых Барыса і Глеба | Полацак | а. Пахом Кавалёў | **Ютрань:** 7.00<br>**сьв. Літургія:** 8.00<br>**Вячэрня:** 18.00 | вул.Навасёлаў, 70<br>тэл. 33-076 |
| Сьвятой Тройцы | Слонім | а. Ігар Кандрацьеў | **супольная малітва ці сьв. Літургія:** субота, 13.00 | e-mail: mazhejka@mail.ru<br>вул.К.Маркса, 7<br>тэл. 2-01-72<br>спн. Яўгенія Лазар |

## Экуменічная сустрэча беларускіх грэка-католікаў з нямецкімі лютаранамі і рыма-католікамі

⇨ Заканчэньне са с.1

У Берасьці разам з мясцовымі грэка-католікамі нямецкія вернікі наведалі мясьціны ў горадзе, дзе некалі былі пахаваньні нямецкіх жаўнераў розных часоў. Сёньня практычна ўсе гэтыя вайсковыя могілкі (дарэчы, часта побач былі пахаваныя таксама і праваслаўныя, юдэі, мусульмане) зруйнаваныя, на іх месцы ўзьведзены жылыя будынкі і нават школа. Практычна не засталося сьледу і ад вялікіх могілак у мікрараёне Дуброўка, дзе хавалі немцаў-ваеннапалонных, якія вярталіся пасьля вайны з савецкіх лагероў і прымусовай працы. Да сярэдзіны 70-х гадоў дзяржава выдаткоўвала сродкі, каб гэтыя могілкі ахоўваліся і дагдядаліся. Цяпер жа яны зарасьлі дрэвамі і кустамі, да іх падбіраецца забудова.

Самае жахлівае, што людзі часта нават ня ведаюць, што ва ўсіх гэтых мясьцінах, дзе яны жывуць, гуляюць, адпачываюць, вучацца і нават вырошчваюць садавіну і гародніну, ляжаць чалавечыя косьці...

На працягу ўсіх чатырох дзён побыту ў Берасьці нямецкія лютаране і католікі разам з мясцовымі вернікамі маліліся за ахвяраў усіх таталітарных рэжымаў на месцах былых пахаваньняў, а таксама ў праваслаўных храмах, штодзень удзельнічалі ў сьв. Літургіі ў грэка-каталіцкай парафіі сьв. Пятра і Андрэя, шчыра маліліся за еднасьць усіх хрысьціянаў і аб братняй любові паміж народамі, разважалі над Сьвятым Пісьмом, гутарылі пра гісторыю.

Для нямецкіх вернікаў была арганізавана экскурсія па горадзе: яны пабывалі ў былой лютаранскай кірсе, рыма-каталіцкім касьцёле з цудатворным абразом Маці Божай Берасьцейскай, а таксама на выставе пра гісторыю мясцовай габрэйскай грамады ў былой сінагозе. Таксама ім была прапанавана экскурсія па старажытным Берасьці ў крэпасьці. Тут, ля падмуркаў былой базыльянскай царквы сьв. Пятра і Паўла, побач з месцам, дзе была падпісана Берасьцейская царкоўная Унія, беларусы, немцы і палякі, грэка-католікі, лютаране і рыма-католікі, узяўшыся за рукі, прачыталі ў сваіх родных мовах малітву «Ойча наш»; падчас спантаннай малітвы прасілі ў Бога паразуменьня, еднасьці і любові паміж вернікамі розных канфесіяў і паміж народамі, а таксама прасілі, каб Госпад дапамог пераадолець нядобрую памяць, сфармаваную таталітарнымі рэжымамі, і не дапусьціў зьяўленьня новых.

**Ігар Бараноўскі**

**Паола Вагнэр**

# Тата, а дзе жыве Бог?

### *17. ТАТА, ЯК ХЛЕБ МОЖА СТАЦЦА ЦЕЛАМ ХРЫСТОВЫМ?*

Людзі, якія любяць адзін аднаго, хочуць быць разам і ня хочуць расставацца. Калі ж Ісус сказаў сваім апосталам: “Адыходжу да Айца і ўжо мяне ня ўбачыце”, апосталы вельмі засмуціліся, што застануцца без свайго Госпада, які ім так патрэбны. Ісус ведаў таксама, што ня можа пакінуць апосталаў, аднак Ён ведаў, што павінен выканаць сваё пасланьне і прыняць сьмерць на крыжы, ведаў таксама, што на трэці дзень уваскрэсьне з мёртвых і ўзыйдзе да Божае славы. Для Госпада нашага Ісуса Хрыста няма нічога немагчымага, і таму Ўваскрослы і Праслаўлены Ісус адначасова ёсьць у Божай славе, а таксама прысутны са сваімі вучнямі тут, у сьвеце.

### *18. А ЯК ІСУС ГЭТА ЗРАБІЎ?*

Калі перад тым, як быць укрыжаваным, Ісус вячэраў у апошні раз са сваімі апосталамі, Ён узяў хлеб, ламаў і даваў сваім вучням, кажучы: “Гэта ёсьць цела маё”. Гэтак перамяніў хлеб. Праслаўленае Цела Ісуса, якое ня бачна людскім вачам, сталася бачным Сьвятым Хлебам, Сьвятым Целам Хрыстовым. Пасьля Ісус узяў келіх з віном, кажучы: “Гэта ёсьць кроў мая”. Так перамяніў віно. У час гэтай Апошняй Вячэры апосталы атрымалі моц перамяняць хлеб і віно ў Цела і Кроў Праслаўленага Хрыста. І гэтую моц перадалі сваім наступнікам — біскупам і сьвятарам.

Дык вось, калі сьвятар падчас Сьвятой Літургіі паўтарае словы Ісуса Хрыста, якія Ён вымавіў падчас Апошняй Вячэры, хлеб і віно перамяняюцца ў Цела і Кроў Хрыста. ***А мы верым, што ў гэтым Сьвятым Хлебе і Сьвятым Віне прысутны Ўваскрослы і Праслаўлены Госпад наш Ісус Хрыстос.*** Гэта вялікая таямніца, якую мы да канца не разумеем. Аднак, уся Царква верыць словам Ісуса, якія Ён вымавіў на Апошняй Вячэры. Верым, што ў сьвятасьці Цела і Крыві Хрыстовых сустракаемся з сапраўдным жывым Ісусам.

### *19. ТАТА, ДЛЯ ЧАГО ЎЛАСНА ЁСЬЦЬ ЦАРКВА?*

Некаторыя людзі хацелі б, каб Царква была вялікім унівэрмагам, поўным смачных рэчаў. І ў гэтым унівэрмагу хацелі б выбраць сабе тое, што найбольш даспадобы. Але як толькі знойдуць нешта не такое салодкае, як хацелася б, гэта ўжо ім не падабаецца. Іншым здаецца, што маральная навука Царквы ім зашмат забараняе, і таму шукаюць нешта лягчэйшае і менш складанае.

Царкве ўжо 2000 гадоў, і ўжо 2000 гадоў яна мае тое самае заданьне — прыводзіць людзей да Ісуса Хрыста. Гэтае заданьне Царква мае і ў сёньняшнія часы. Сёньня, вядома, усюды вакол нас ёсьць шмат розных прапановаў і магчымасьцяў, як жыць і па якой дарозе ісьці па шчасьце. І дарога, якую прапаноўвае Царква, трэба прызнаць, ня ёсьць найлягчэйшая і беспраблемная. Яна ня можа быць такой, таму што Ісус Хрыстос ніколі не абяцаў сваім вучням дарогу шырокую і беспраблемную. Ён вёў і сёньня вядзе сваіх вучняў па дарозе вузкай і цярністай, але толькі Хрыстовая дарога скіраваная да Валадарства Божага.

Сьвет без Царквы быў бы як вялікае падарожжа, у якім чалавек ідзе і ня ведае куды. Царква, аднак, паказвае нам дарогу, па якой пойдзем з Ісусам; і я веру, што ў канцы мы будзем шчасьлівыя.

*(Працяг будзе, пачатак у № 16-23)*

*Пераклаў з чэскай*
**а. Андрэй Абламейка**

# Апякун Беларусі

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | 1 | | | | | | |
| | 2 | | | | | | | | |
| 3 | | | | | | | | | |
| | 4 | | | | | | | | |
| | | 5 | | | | | | | |
| | 6 | | | | | | | | |

*Запоўні правільнымі адказамі гарызантальныя радкі і атрымаеш па вертыкалі ў чырвоным слупку імя апекуна Беларусі.*

1. Рака, на якой Ісус прыняў хрост.
2. Хрысьціянская супольнасьць, якая штогод ладзіць экуменічныя спатканьні для моладзі.
3. Назва малітвы на вяровіцы.
4. Частка храму.
5. Адзін з апосталаў.
6. Месца, дзе маліліся першыя хрысьціяне.

**Царква**
*грэка-каталіцкая газета*
*№ 3 (26), 2000*

**Адрас рэдакцыі:**
вул.Дворнікава, 63
224014 г.Берасьце
Беларусь
Тэл./факс: (0162) 24-74-82

**Заснавальнік і выдавец:**
Берасьцейская грэка-каталіцкая парафія сьвятых братоў апосталаў Пятра і Андрэя
**Пасьведчаньне аб рэгістрацыі:** № 1055 ад 27.11.1997 г.
**Галоўны рэдактар:** сьвятар Ігар Кандрацьеў
**Рэдактар:** Ігар Бараноўскі
**Падпісана ў друк:** 11 верасьня 2000 году, а 22-30
**Паліграфічныя работы:** ПП В.Ю.А. (пасьв. № 836), вул.Мініна, 23-106, г.Менск. **Замова №**
**Аб’ём** — 2,0 ул.-выд.аркушы. **Наклад** 1750 асобнікаў.

***Наш разьліковы рахунак № 3015200210017 у Берасьцейскім філіяле № 2 ЗАТ “Абсалютбанк”, МФО 150501242***